*Людзьмі звацца! —*
*Янка Купала*



# Літаратура і Мастацтва

ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 г.

ШТОТЫДНЁВІК МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

**Пятніца, 27 ліпеня 1990 г. № 30 (3544) ● Цана 10 кап.**


## У НУМАРЫ:



*Вікторыя НАСКОВА — лаўрэат II Усесаюзнага фестывалю польскай песні ў Віцебску. Аб тым, як праходзіла музычнае свята, — чытайце на стар. 3.*

Фота Яўгена КОКТЫША.

# НА ПОЎНЫМ СУР'ЁЗЕ

**прайшоў у Віцебску II Усесаюзны фестываль польскай песні**

Мы, БЕЗУМОЎНА, можам усё: азеляніць пустыні і павярнуць рэкі, вырасціць на Марсе яблыні і запаліць рукатворныя ядзерныя сонцы. Мы можам нават правесці Усесаюзны фестываль польскай песні ў краіне, дзе людзі жывуць па талонах, гінуць ад радыяцыі і куль, прадэманстраваць тым самым новы крок наперад ва ўмацаванні дружбы паміж народамі...

А мо нам толькі і засталося, што спяваць па-польску?

Гэтая думка наведала мяне тады, калі я сачыў за вартай жалю цырымоніяй уручэння прызоў лаўрэатам і дыпламантам II Усесаюзнага фестывалю *польскай песні ў Віцебску*. Адказныя за гэтае найбольш адказнае і значнае для выканаўцаў мерапрыемства параблыталі ўсё, што маглі, і свята песні адразу паблякла. Нягледзячы нават на самыя шчырыя жаданні арганізатараў зрабіць яго як мага лепшым, у чым я глыбока *перакананы*.

Найбольшае глупства — аспрэчваць рашэнне журы. Сёлета паважаная група спецыялістаў на чале з Ігарам Лучанком размяркавала месцы наступным чынам. Першае месца і званне лаўрэатаў атрымалі Наталля Патапенка з Львова і Валерый Цуркан з Калінінграда, на другім месцы — Алена Лукашэнка (Пінск) і Вікторыя Наскова (Віцебск), на трэцім — Фаік Агаеў з Азербайджана і ансамбль «Львавяне». Тым не менш другое месца В. Насковай выклікала, мякка кажучы, здзіўленне сярод савецкіх і польскіх журналістаў. У параўнанні з масквічамі А. Кузьміной і К. Амбарцумян юная віцябчанка выглядала проста блякла. Што гэта, фактар «родных сцен» ці яшчэ адна спроба давесці Віцебску карысць, якую нясе гораду фестываль?

У параўнанні з першым фестывалем склад удзельнікаў быў сапраўды больш роўны і высокі. Як і тады, слаба выглядалі ансамблі, а вось салісты пасля шматлікіх кантактаў з Дзяржаўным канцэртным аркестрам Беларусі здолелі раскрыць свой патэнцыял і творчую індывідуальнасць. Пры гэтым майстэрства выканання дазваляе сцвярджаць, што большасць з лаўрэатаў ні ў чым не саступала як некаторым прафесіяналам з лаўкі журы, так і гасцям — «зоркам савецкай эстрады».

Я разумею, што «зоркі» — людзі асаблівыя, што спяваць пад аркестр куды складаней, чым пад фанаграму. Ды побач — пачаткоўцы, якія прагнуць узяць усё найлепшае, што маюць «зоркі». Між тым Эдзіта П'еха *спявала пад фанаграму*, процьма маскоўскіх і іншых маэстра (Жэня Белавусаў, групы «Камбінацыя», «На-На», «Любэ» і г. д.) скакалі па сцэне, ледзь адкрываючы раты. Падобна на тое, што славутыя прывілеі — прыналежнасць не толькі прадстаўнікоў апаратных сфер. За дзве-тры песні, зымітаваныя на сцэне з дапамогай магнітафоннай «фанеры», майстры савецкай эстрады атрымлівалі немалыя грошы. Гэтак неўзабаве і аркестр Міхаіла Фінберга апынецца «па-за гульнёй». Чаму б і не? За адзін выхад на сцэну група Жэні Белавусава мае прыблізна столькі ж, колькі музыкант аркестра зарабляе за нейкіх паўгода... Вучыцеся, маладыя, як трэба жыць!

Канцэрт беларускай эстрады выклікаў адну рэакцыю — «за дзяржаву крыўдна». Уражанне такое, што дашчэнту выпалена ўсякае жаданне нечым узрушыць публіку. Дасягненне канцэрта ў тым, што ўсе песні прагучалі на беларускай мове. Ды хоць бы на японскай, абы была якасць, актуальнасць, высокае мастацтва! Не было. Лепшае з беларускай эстрады — Дзяржаўны народны хор імя Г. Цітовіча, які прыехаў у Віцебск у поўным складзе, каб... пад фанаграму апавядаць пра любоў да роднае зямліцы. Звышсур'ёзнасць, проста кепскі густ прадэманстравалі нашы майстры, высока ўзняўшы «фанерны» сцяг самаўлюбёнасці. Такое ўражанне, што тварам беларускай эстрады хутка зробяцца не толькі работнікі Акадэміі *навук, але і песняры гандлю*, бытпаслуг, аўтазаправак. Усё прадаецца? «Ну чаму ты не са мной?» — мо разоў трыццаць паўтарыла самая прыгожая вакалістка. Ды ўсё таму: за дзяржаву крыўдна.

Фестывальныя будні — гэта не толькі канцэртны амфітэатр. Гэта рэстараны да пятай гадзіны ночы, дзе поўна было людзей, што не мелі да фестывалю ніякіх адносін. Там быў каньяк, шампанскае (без талонаў), добры (па нашых мерках) сервіс і ладныя дзяўчаты, што пасярод ночы самаахвярна дэманстравалі розныя часткі цела. Дзеля ўмацавання дружбы?

Ды другі фестываль скончыўся. І ніхто цяпер не гарантуе, што адбудзецца трэці. Ужо чуліся думкі ператварыць яго альбо ў свята славянскай песні, альбо зрабіць конкурс накшталт юрмальскага, ці наогул наладзіць нешта здаля падобнае на фестываль зорак еўрапейскай эстрады.

Мяркую, лепш за ўсё пачакаць. Мы ж яшчэ не прачнуліся. Мы сядзім у віцебскім амфітэатры так сур'ёзна, нібы слухаем паведамленне Ангеліны Воўк пра вераломны напад умоўнага праціўніка. Мы прапускаем паўз вушы, нічога не ўсведамляючы, гімн «Салідарнасці» Уладзімежа Корча ва ўзрушаным выкананні гасцей у той час, калі вяршыняй патрыятычнага ўздыму грамадзян без пяці хвілін суверэннай Беларусі з'яўляецца «Девочка синеглазая». Вось тады мы — аднадумцы, сіла, народ, здольны не звяртаць увагі *на пустыя* прылаўкі, духоўную галечу і кіслотныя дажджы, што раз'ядаюць фестывальныя парасоны.

Баль пад час чумы?..

Разам з тым, буду шчыра шкадаваць, калі гэты фестываль стане апошнім. Ён патрэбны, але які? Магчыма, вырашэнню гэтай праблемы дапаможа дагавор аб супрацоўніцтве, падпісаны намеснікам міністра культуры і мастацтваў Польшчы Міхалам Ягелам і міністрам культуры БССР Яўгенам Вайтовічам?

**Дзмітрый ПАДБЯРЭЗСКІ.**

Віцебск—Мінск.

# ЗНОЎ ГУЧЫЦЬ БАЯВАЯ ТРУБА

***Ліст у рэдакцыю***

**Рэдакцыя часопіса «Политический собеседник» (1990, № 7) *парадавала* нас новай формай працы з аўтарамі, апублікаваўшы ў рубрыцы чытацкіх пісем артыкул кандыдата філалагічных навук В. Юдзіна «Пафас безгрунтоўнага адмаўлення». Даруем ёй гэту маленькую выдавецкую хітрасць: ёсць «проста чытач» і ёсць «просвещенный читатель», а менавіта да яго звяртаецца аўтар артыкула.**

**Што ж, «проста чытач» можа і не ведаць, а «просвещенный читатель» то пэўна *ведае, што свабодны друк — найвялікшае* дасягненне нашага часу — не толькі дазваляе выказацца кожнаму, але і вымагае ад кожнага пунктуальнага выканання агульнапрынятых у цывілізаваным грамадстве правіл паводзін! Што сказаў бы навуковец В. Юдзін, калі б апаненты адверглі яго дысертацыю, грунтуючыся адно на асобных яе фрагментах! Ці прызнаў бы за імі права рабіць такія гучныя, больш падобныя на палітычныя абвінавачванні, вывады, якія робіць сам у дачыненні да ўрыўкаў з дакументальнай кнігі С. Алексіевіч «Цынкавыя хлопчыкі» («Комсомольская правда», 1990, ад 15 лютага): «Налицо не документальная, а воображаемая проза, замешанная на пафосе беспочвенного отрицания все и вся, лишь имитирующая документализм. В истерическом хоре злонамеренных нападок на Советскую Армию, резко участившихся за последнее время со стороны наших «прогрессистов», новому произведению С. Алексиевич уготовано, как ни печально, видное место...»**

**Артыкул *В. Юдзіна, як пракурорская* прамова з выразным абвінаваўчым ухілам, літаральна нашпігавана апрабаванымі ў добра памятныя часы рытарычнымі прыёмамі і фігурамі.**

**Усё тое ж *сумна вядомае прыпісванне* аўтару думак яе герояў-«афганцаў»: «Рукой-то наших «цинковых мальчиков» водит автор. И не просто «водит», скрупулезно регистрируя «случаи» из жизни, а задает им определенную концепцию».**

**Усё тыя ж перанесеныя ў наш час з суслаўскай эпохі папрокі ў нежаданні адрозніваць «правду отдельного факта и большую правду искусства».**

**Усё тое ж наўмыснае супрацьстаўленне сучасных пісьменнікаў класікам: «Опускаясь в глубины человеческой мерзости, нельзя забывать о небе и солнце, способном высветить в человеке прекрасное». Называючы пры гэтым імя М. Шолахава, літаратуразнаўца В. Юдзін забывае, што яго герой пасля ўсяго перажытага ўзняў вочы ў неба і ўбачыў «чорнае сонца».**

**Усё тое ж імкненне выкачаць у гразі падазрэнняў, хлусні і паклёпу святое імя А. Д. Сахарава, погляд якога на афганскую вайну як на вайну амаральную і злачынную быў афіцыйна пацверджаны на З'ездзе народных дэпутатаў.**

**Усё той жа намер зваліць адказнасць за гэту ганебную акцыю на мёртвых дзеячаў «Мадрыдскага двара» і абараніць Сістэму, якая трымаецца на дзіўным кангламераце партыйнай бюракратыі з ваенна-прамысловым комплексам.**

**Усё тое ж нацкоўванне на пісьменнікаў простага люду («отцы нам не лгали») і імкненне выкарыстаць у гэтых мэтах «афганцаў», скіраваўшы зразумелую іх прагу дзейнасці на пошукі новых «ворагаў», разварушваючы ў іх душах нізкія псеўдапатрыятычныя страсці («будто и не солдаты вовсе, а насильно оторванные от груди матери сосунки»).**

**І ўсё той жа славуты савецкі «новояз», народжаны ў час вострай ідэалагічнай барацьбы з замежнымі «спецслужбамі»: «отцы-изверги», «досужие судилища», «подлинные патриоты», «славные советские парни», «этакие хлюпики-многострадальцы с их пацифизмом, слащаво-приторной сентиментальностью, брезгливо расторгнувшие всякие духовные связи с Родиной, своим народом».**

**І зноў са старонак «ПС», як ужо было не раз за гэтыя гады, гучыць баявая труба абаронцаў «імперскіх амбіцый», *якія заклікаюць пад свае сцягі* «сапраўдных патрыётаў», «верных сыноў Айчыны», «воінаў-інтэрнацыяналістаў». Адно цяжка зразумець, што рабіць пад гэтымі сцягамі «просвещенному читателю»?**

**Ад імя Беларускага ПЭН-цэнтра —**
**Васіль БЫКАЎ,**
**Рыгор БАРАДУЛІН,**
**Міхась ТЫЧЫНА.**

против национальных интересов своих народов» (тут і далей цытую па «Советской Белоруссии» ад 20.06.90 г.). Але, калі не ліць слёзы па адсталасці імперыі, з гэтым варта пагадзіцца. Дарэчы, такі курс нельга называць антыленінскім. Яшчэ ў перыяд, калі Ленін стаяў на пазіцыі прыхільніка ўнутранай дзяржавы, ён падкрэсліваў: «Марксисты не могут упускать из виду могучих **экономических** факторов, порождающих стремление к созданию национальных государств. Это значит, что «*самоопределение наций*» не может иметь, с историко-экономической точки зрения, иного значения, кроме как политическое самоопределение, государственная самостоятельность, образование национального государства» (ПЗТ, т. 25, с. 263).

Па-другое, канцэпцыя суверэнітэту Беларусі ў Саюзе дзяржаў (канфедэрацыі), выкладзеная ў «Запісцы», абыходзіць маўчаннем такі фундаментальны прынцып, як права нацый на самавызначэнне аж да аддзялення. Зразумела, не ў тлумачэнні Яравога, Макашова, Алксніса і г. д. Адсутнасць гэтага прынцыпу ў «Запісцы», калі гэта не памылка ці недагляд, сведчыць аб чыёйсьці няшчырасці і ператварае ўсю размову аб дзяржаўным суверэнітэце, у канчатковым выніку, у чарговую апаратную гульню, пераможцам у якой павінна стаць на гэты раз «единая и неделимая советская конфедерация» або «единый и неделимый Союз... держав».

Далей. «Запіска» прапаноўвае беларускаму народу пагадзіцца абмежаваць свой суверэнітэт на карысць ведамстваў, у тым ліку — абарончага. Гэта прыводзіць да думкі аб узнікненні на тэрыторыі рэспублікі — яшчэ гэтага не хапала! — федэральных земляў для, як сказана, «размещения и функционирования органов СССР», зразумела, са сваім «уставом и *федеральным языком*». Чытай: не толькі ўласна органаў кіравання СССР, а, пераважна, воінскіх часцей, палігонаў, дарог, аэрадромаў, заводаў.

*За гэтай цягай да стварэння* чагосьці накшталт шаснаццатай саюзнай дзяржавы бачыцца імкненне сучасных імперскіх колаў увайсці ў давер народаў з чорнага ўваходу, з намерам выкарыстоўваць «русскоязычное население» ў якасці базы дэнацыяналізацыі і як паратунак для сучасных звышінтэрнацыяналістаў.

*Спроба пабудаваць імперыю* пры сацыялізме скончылася эканамічным, сацыяльным, культурным і нацыянальным крахам. Аналізуючы гэтую сітуацыю, Першы з'езд народных дэпутатаў РСФСР устанавіў, што праблемы рэспублікі і гарманізацыі адносін з іншымі рэспублікамі нельга вырашыць без паўнакроўнага палітычнага суверэнітэту, пры якім улада будзе належаць **народу**. «Запіска» таксама выказваецца, як там сказана, «за подлинный национальный суверенитет», але з шэрагам асаблівасцяў, запазычаных ад «суверэнітэту» часоў рэпрэсій, валюнтарызму і застою.

Суверэнітэт азначае незалежнасць дзяржавы ад іншых дзяржаў у яе ўнутраных справах і міжнародных адносінах. У «Запісцы» тлумачыцца, што ён неабходны для «правовых гарантий каждому ее гражданину для гармонического развития и неприкосновенности личности, обеспечения полных и равных свобод, создания достойных условий жизни и труда». Калі б толькі так! Для гэтага дастаткова было б Беларусі і статуса Заходняй вобласці Расіі і суверэннасці Расіі альбо статуса ўсходніх крэсаў сучаснай Польшчы (што не горш *рускага варыянта, паколькі* ў Польшчы суверэнітэт ужо **ёсць**). Аўтар «Запіскі» ўпарта адмаўляецца заўважаць, што суверэнітэт прызначаны ў першую чаргу для гарантыі належных умоў усебаковага развіцця **народа** як адзінкі, як супольнасці.

І яшчэ вось аб чым хачу сказаць.

Сумесная абарона ў саюзе дзяржаў — адна з істотных сфер праяўлення інтэрнацыяналізму. Карысць яе ў тым, што яна дазваляе звесці да мінімуму выдаткі на абарону, а ў выпадку канфлікту — колькасць ахвяр і разруху. Такая ідэалогія абароны ў складзе Саюза не пярэчыць інтарэсам кожнага суб'екта Саюза. У тэорыі. А на практыцы? На тэрыторыі Беларусі адных толькі ракетна-аперацыйных баз не менш 20 («АіФ», № 6, 1990). Ёсць нямала часцей і іншага назначэння, аэрадромаў і іншых аб'ектаў. У сувязі з вывадам войскаў з Чэхаславакіі, Венгрыі, ГДР іх колькасць, магчыма, яшчэ ўзрасце. Пры такіх акалічнасцях у выпадку ваеннага канфлікту ў першую гадзіну колькі адбудзецца на Беларусі выбухаў ядзерных боегаловак? Яны прынясуць усяму беларускаму народу не паратунак, а смерць.

Інтэрнацыяналізм такога гатунку губляе ўсялякі сэнс. Выйсцяў з гэтага стану для беларускага народа толькі два: або выйсці са складу Саюза наогул, або застацца ў ім, але пры ўмове стварэння нацыянальнай арміі і стратэгіі абароны Саюза ў поўнай адпаведнасці з чалавечым разуменнем паняцця інтэрнацыяналізму. Як першы, *так і другі шлях азначае ліквідацыю* многіх баз на тэрыторыі Беларусі. Пры гэтым ніхто, па логіцы рэчаў, не мае аніякага права патрабаваць ад беларускага народа нейкіх выплат, кампенсацый, бо ва ўсім цывілізаваным свеце паступаюць наадварот: за дазвол размясціць базу, аб'ект, за рызыку, звязаную з імі, — плацяць.

Прапанова ў «Запісцы» перадаць абарону Беларусі Міністэрству абароны СССР — непрымальная. Там сядзяць не тыя, каму можна без сумнення даверыць свой лёс, сваё існаванне. Мандат на рызыку быць сцёртым з твару Зямлі беларускі народ нікому не даваў і не дасць. Дэпутатам Вярхоўнага Савета БССР варта памятаць аб гэтым.

**В. ГОЛУБ,**
**фізік-ядзершчык.**

г. Обнінск,
Калужскай вобласці.

## «СКАРБЫ СУСВЕТНАЙ ЛІТАРАТУРЫ»—

унікальная шматтомная серыя выдавецтва «Мастацкая літаратура». У серыю ўключаны лепшыя творы з літаратур усіх краін і народаў, якія ўвайшлі ў залаты фонд сусветнай культуры і карыстаюцца нязменнай папулярнасцю сярод чытачоў: «Іліяда» і «Адысея» Гамера, «Боская камедыя» Дантэ, «Дэкамерон» Бакачыо, «Трагедыі. Санеты» Шэкспіра, «Фаўст» Гётэ, «Дон Кіхот» Сервантэса, «Рабінзон Круза» Дэфо, «Падарожжа Гулівера» Свіфта, а таксама літаратура XIX і XX стагоддзяў.

Серыя, якая будзе складацца прыкладна са 100 тамоў, выдаецца на беларускай мове, творы перакладаюцца з мовы арыгінала. Падрыхтоўкай тамоў занята вялікае кола пісьменнікаў, вучоных, мастакоў. Кожны том суправаджаецца ўступным артыкулам і каментарыямі.

У мінулым годзе ўбачылі свет «Доктар Фаўстус» Т. Мана, «Трагедыі. Санеты» У. Шэкспіра, «Вершы. Паэмы» Т. Шаўчэнкі. Сёлета выйдуць «Мёртвыя душы. Тарас Бульба. Рэвізор» М. Гогаля, «Фаўст» Гётэ, «Дафніс і Хлоя» Лонга, «Метамарфозы, - або Залаты асёл» Апулея, «Навелы» Мерымэ.

Серыя ілюстраваная. У афармленні яе прымаюць удзел лепшыя беларускія графікі. У асобных тамах будуць выкарыстаны ілюстрацыі вядомых мастакоў свету. Выданне разлічана на масавага чытача.

В. ШЫХАНЦОЎ.

Сяргей КАВАЛЁЎ

# На розныя ўзросты і густы

### Гартаючы старонкі «Вясёлкі» і «Бярозкі»

РАЗГЛЯДАЮЧЫ сучасны літаратурны працэс, беларуская крытыка да крыўднага мала звяртае ўвагі на часопісы. Выключна рэдка з'яўляюцца рэцэнзіі на раманы, аповесці і паэмы, надрукаваныя ў часопісах, не памятаю ніводнага водгуку на часопісныя апавяданні і нізкі вершаў. Не мелі поспеху і працягу колішнія намаганні «Літаратуры і мастацтва» ўвесці ва ўжытак перыядычныя агляды часопіснай прозы і паэзіі. Нашы часопісы не звяртаюць ніякае ўвагі адзін на аднаго, жывуць самаізалявана, з чыста беларускай далікатнасцю не зважаючы на суседскія поспехі і няўдачы. Выключэннем з'яўляецца звышпільны «Политический собеседник», які апантана вышуквае на старонках перыядычных выданняў інтрыгі мясцовых экстрэмістаў, братніх сіяністаў, замежных нацыяналістаў. Але нас цікавіць у дадзеным выпадку палеміка літаратурная: па прадмету спрэчкі ці хаця б па форме выяўлення. Такой палемікі паміж часопісамі ў нас няма, ды і паміж асобнымі літаратарамі здараецца яна не часта, куды часцей палемічныя нататкі таго ці іншага аўтара застаюцца без адказу, незаўважанымі. Калі ж нейкая спрэчка ўсё ж такі ўзнікае, яна ніколі не выходзіць, як правіла, за межы таго часопіса, дзе ўзнікла. «Гэта мая спрэчка, я яе арганізаваў, падрыхтаваў, а вы, шаноўныя суседзі, рыхтуйце свае, у маю не ўлазце», — папярэджвае шчаслівы манапаліст і працягвае спрэчку сам з сабой у загадзя запланаваных межах і накірунку.

Змест і аблічча часопісаў ды і перыядычнага друку ўвогуле залежыць, зразумела, ад грамадска-палітычнай сітуацыі ў рэспубліцы. Працэс дэмакратызацыі ў Беларусі адстае па розных прычынах ад аналагічных працэсаў у Прыбалтыцы, Грузіі, Маскве, а там, дзе менш свабоды і дэмакратыі — большая падпарадкаванасць апарату, уціск цэнзуры, стрымліванне ініцыятывы і пошуку.

Сённяшні стан беларускіх часопісаў вынікае таксама з агульнага стану беларускай культуры, у прыватнасці, з крызіснага становішча ў грамадстве беларускай мовы, якая зрабілася дзяржаўнай пакуль што толькі на паперы, але не ў рэальным жыцці. Чытацкая аўдыторыя ў беларускамоўных часопісаў — нешматлікая і спецыфічная, складаюць яе пераважна людзі, звязаныя тым ці іншым чынам з беларусазнаўствам: навуковая і творчая інтэлігенцыя, настаўнікі, студэнты. Ёсць, безумоўна, сярод чытачоў беларускіх часопісаў і прадстаўнікі іншых прафесій і сацыяльных катэгорый, але яны — пакуль прыемнае выключэнне.

Залежыць узровень беларускіх літаратурна-мастацкіх часопісаў, вядома, і ад узроўню нацыянальнай літаратуры, ад структуры і спецыфікі тутэйшага літаратурнага працэсу. Тэарэтычна рэдакцыя часопіса можа выбіраць творы на свой густ, але практычна — толькі з таго, што ёй прапануюць.

Літаратурны працэс у нас цэнтралізаваны, планава-нарматыўны. Уся выдавецкая дзейнасць сканцэнтравана ў Мінску, усе літаратурна-мастацкія часопісы — органы СП БССР ці ЦК ЛКСМБ.

У такіх умовах існавалі, існуюць і, відаць, будуць існаваць у бліжэйшым будучым беларускія часопісы, а разам з імі — і беларуская літаратура. Цяжка ўявіць, якімі будуць літаратурна-мастацкія выданні, скажам, праз дзесяць гадоў, калі абачлівыя палітыкі і вучоныя-эканамісты не рызыкуюць прадказаць, што будзе з краінай праз паўгода. Бясспрэчна адно: ад таго, якія і якімі будуць заўтра часопісы, шмат у чым залежыць тое, якая і якой будзе літаратура. Бо часопісы — рухавікі літаратурнага працэсу і, адначасова, — форма функцыяніравання літаратуры ў грамадстве.

У гэтым артыкуле гаворка будзе весціся пра часопісы «Вясёлка» і «Бярозка», якімі яны былі ў мінулым, 1989 годзе. Чаму менавіта пра іх? Таму што выданні для дзяцей і падлеткаў традыцыйна найбольш абдзелены ўвагай. Урэшце таму, што памеры артыкула не дазваляюць больш-менш уважліва разгледзець усе беларускія літаратурна-мастацкія часопісы адразу; спадзяюся, гэта зробяць іншыя ў іншых артыкулах.

ПАВЕВЫ нацыянальнага адраджэння несумненна паўплывалі на павелічэнне накладу «Вясёлкі» (рэдактар У. Ліпскі): 1988 г. —80000 асобнікаў, 1989 г. — 100000 асобн., 1990 г. — 185000 асобн. Адзінкавыя гарадскія беларускамоўныя класы і садкі, узнікшыя па ініцыятыве жменькі свядомых бацькоў, падтрыманых нефармаламі, не пахіснулі пакуль што нацыянальнабезаблічны маналіт дзяржаўнай школьнай адукацыі, але прымусілі многіх бацькоў, як разумных, так і проста абачлівых, падумаць пра будучыню сваіх дзяцей. Спрыяла поспеху і вялікая арганізацыйна-масавая работа рэдакцыйнага калектыву па рэкламе часопіса.

Нельга не заўважыць імкненне рэдакцыі рабіць часопіс цікавым і карысным, займальным і пазнавальным, адпавядаць запатрабаванням часу і грамадства, ісці ў рэчышчы нацыянальнага адраджэння і выхоўваць маленькага беларускага чытача. Але гэта — калі ацэньваць часопіс увогуле, пасля ўзважвання яго вартасцяў і недахопаў, робячы канчатковыя высновы. Калі ж пачынаць чытаць «Вясёлку» з першай старонкі— напачатку ўзнікаюць якраз прэтэнзіі і заўвагі, і таму хочацца выказаць іх адразу, не чакаючы традыцыйнага для артыкулаў і рэцэнзій прадапошняга абзаца.

Распачала «Вясёлка» 1989 год наступнымі вершавымі радкамі:

> Мы ідзём па зямлі цвёрдым крокам,
> Верным ленінскім курсам,
> І ўвесь свет
> Знае край сінявокі,
> Дзе жывуць беларусы.
> (П. Прыходзька).

Згадзіцеся, што ў пяці-дзесяцігадовага чытача, які ўпершыню ўзяў у рукі часопіс на роднай мове, такі пачатак адразу павінен выклікаць зацікаўленасць. Разумеючы гэта, часопіс і надалей змяшчае на адваротах вокладак узоры падобнай творчасці шматгадовай даўнасці, што наўрад ці даспадобы аўтарам гэтых «дзяржзаказных» вершаў сёння.

> Не згасне ў памяці эпох,
> Здзяйсненняў дзёрзкіх
> поўны,
> Пачатак нашых перамог—
> Кастрычнік вечапомны.
> (Р. Барадулін).

Рэшткі палітычнай заангажаванасці — галоўны недахоп мінулагодніх нумароў «Вясёлкі». Ну як можна сёння распавядаць дзецям пра цуды калгаснай нівы і са шкадаваннем згадваць бязрадаснае, жабрацкае жыццё беларускіх сялян да калектывізацыі? А менавіта гэта робіць Т. Дзмітрусёва ў чарговым панегірыку старшыні калгаса «Савецкая Беларусь» двойчы Герою Сацыялістычнай Працы У. Л. Бядулю (нарыс «Наш хлеб», жнівеньскі нумар).

Часопісу неабходна тэрмінова пазбавіцца ад ідэалагічных, сацрэалістычных штампаў, якія выглядаюць сёння на агульным фоне матэрыялаў часопіса нежывымі, рэліктавымі, а то і проста смешнымі. Абыходзяцца ж неяк без падобных «свидетельств благонадежности» маскоўскія дзіцячыя часопісы— органы ЦК ВЛКСМ.

Што ж трэба занесці ў актыў часопіса? Дастаткова прафесійны агульны ўзровень мастацкага афармлення (за кошт малюнкаў Уладзіміра Савіча, Таццяны Беразенскай, Пятра Драчова, Наталлі Суставай і інш.) і дастаткова прафесійны агульны ўзровень літаратурных твораў у параўнанні з агульным узроўнем нашай дзіцячай літаратуры.

Сярод паэтычных твораў вылучаюцца вершы Васіля Віткі і Анатоля Клышкі — пісьменні-

# Жывая ручаінка

**Ён уваходзіў у нашу літаратуру з вялікімі надзеямі сказаць сваё слова. На такія развагі наводзяць яго творы. Гэта пацвярджаюць і ўсе тыя, хто ведаў Уладзіміра Кандрацэню як чалавека і пачынаючага беларускага празаіка...**

НА ЖАЛЬ, у нашай гісторыі, у тым ліку і літаратурнай, далёка не заўсёды міласэрнай і чулай, а ў шэрагу выпадкаў і проста абыякавай да факта, дакумента і захавання памяці пра чалавека, нярэдка і недалёкае мінулае шмат у чым застаецца «белай плямай». У многім гэта датычыцца і жыццёвага і творчага лёсу У. Кандрацені.

Да сённяшняга дня некаторыя моманты ягонай біяграфіі якраз і застаюцца той самай «белай плямай», якая патрабуе ўвагі. Пры гэтым у сферу няведання, як гэта часта бывае, агрэсіўна і бесцырымонна ўмешвалася двухсэнсоўнасць і падазронасць, імкнучыся ачарніць чалавека, прышпіліць яму адпаведнай характарыстычнай якасці палітычны ярлык ці проста выкрасліць з гістарычнага працэсу. Падобныя «каментарыі» нейкай інстанцыі асобных звенняў біяграфіі У. Кандрацені з'явіліся, трэба меркаваць, і асноўнай прычынай таго, што адзіная, выдадзеная пры жыцці аўтара кніга апавяданняў надоўга трапіла ў спецсхоў. І не таму, вядома, каб ашчадна берагчы яе як нейкую унікальную мастацкую з'яву. А з той прычыны, што ў біяграфію аўтара і, у прыватнасці, у яго жыццёвы летапіс ваеннага часу, трапляў пэўны элемент так званага «кампрамату», хай сабе заснаванага на бяздоказнасці і інтуітывізме. І тут, безумоўна, варта было б пашукаць новыя факты, каб з іх дапамогаю больш пэўна наблізіцца да ісціны і вярнуць нашай літаратурнай гісторыі яшчэ адно фактычна забытае пісьменніцкае імя.

Адразу ж хачу заўважыць, што добры пачатак зрабіў тут сціплы чалавек і старэйшы наш пісьменнік Рыгор Восіпавіч Няхай, які разам з У. Кандрацэнем вучыўся на літаратурным факультэце Мінскага педагагічнага інстытута і таварышаваў з ім. Гэты пачатак працы па высвятленні ваеннай біяграфіі свайго сябра і яго трагічнай смерці мог бы быць, як сказаў Рыгор Восіпавіч, больш плённым і выніковым, каб тыя людзі з пісьменніцкага асяроддзя, да якіх ён звяртаўся і якія знаходзіліся тады пры «салідных партфелях», чуйна адгукнуліся на яго захады і просьбы аб дапамозе ў выяўленні сапраўдных прычын і абставін смерці У. Кандрацені.

На думку Р. Няхая (і з гэтым нельга не пагадзіцца), трэба было б цяпер тэрмінова, пакуль няўмольны час канчаткова не сцёр сляды і не ператварыў яшчэ жывое ў людской памяці ў беззваротную страту, пад'ехаць на радзіму пісьменніка, у гарадскі пасёлак Чырвоная Слабада (30 км на захад ад Салігорска) Мінскай вобласці. Тут ён нарадзіўся, у гэтых мясцінах, у Слуцку, і загінуў. Хацелася б верыць, што адтуль нехта ўсё ж адклікнецца і ўнясе сваё каштоўнае дапаўненне, прачытаўшы гэтыя радкі.

Паводле слоў Р. Няхая, нарадзіўся У. Кандрацэня дзесьці ў прамежку 1913—1915 гг. У 1939 г. стацыянарна закончыў Мінскі педагагічны інстытут імя А. М. Горкага. У гэтым жа годзе, летам, разам з П. Панчанкам, І. Грамовічам, У. Краўчанкам быў у працяглай творчай камандзіроўцы на Украіне.

У 1939 г. У. Кандрацэню прызываюць у Чырвоную Армію. У пачатку Вялікай Айчыннай вайны тая часць, у якой ён знаходзіўся, пад Полацкам трапляе ў акружэнне. Нейкім чынам яму ўдаецца вырвацца адтуль. Ён вяртаецца дадому, да бацькоў, у Чырвоную Слабаду.

Р. Няхаю, які неўзабаве пасля вайны наведаў гэтыя мясціны, гаварылі (гутарыў ён, дарэчы, і з тагачасным сакратаром Чырванаслабодскага райкома КПБ, былым начальнікам штаба І-ай Бабруйскай партызанскай брыгады Сяргеем Крамнёвым), што, вярнуўшыся дадому, У. Кандрацэня дапамагаў дзетдомаўцам (у пасёлку быў дзетдом), якіх не паспелі эвакуіраваць і якія апынуліся ў вельмі цяжкім становішчы. Дапамагаў здабываць харчаванне, знаходзіць нейкае адзенне і г. д.

Якія рэальныя намеры і планы былі ў Кандрацені ў гэты час, колькі-небудзь пэўна сказаць цяжка. Ніхто гэтым пытаннем зноў-такі не займаўся. А заняцца ім варта было б. Тым болей, што некаторыя загадкавыя моманты яго біяграфіі ваеннага часу зусім не безадносныя да разумення яго як пісьменніка, чалавека, грамадзяніна. Ды падчас і ў малапрыкметных з'явах і зрухах чалавечага характару праглядваюцца і знаходзяць досыць выразны адбітак заканамернасці і складанасці пэўнага часу.

Патрабуе дакладнага ўдакладнення хоць бы такі вось факт. У 1942 г. да У. Кандрацені нібыта звяртаўся знаёмы яму чалавек і клікаў у партызаны. Аднак гэты чалавек не карыстаўся ў Кандрацені даверам. А праз нейкі час пасля гэтага да немцаў трапляе загадкавым чынам не менш загадкавая папера, дзе партызаны нібыта сур'ёзна нагадвалі Кандрацэню пра тое, што той не выконвае (ці нясвоечасова выконвае) нейкія важныя партызанскія даручэнні. Р. Няхай лічыць, што хутчэй за ўсё гэта была падложная правакацыйная папера, і з'явілася яна, відаць, не «без дапамогі» таго чалавека (хто ж ён?), якому У. Кандрацэня не паверыў ці не да канца паверыў як партызанскаму сувязному. У 1942 г. У. Кандрацэня быў закатаваны (паводле слоў Р. Няхая, павешаны) у засценках слуцкага гестапа.

Наконт таго, ці друкаваўся У. Кандрацэня ў час вайны ў якіх-небудзь выданнях, што выходзілі на акупіраванай тэрыторыі, высветлілася наступнае. Неўзабаве пасля заканчэння вайны на кватэры ў крытыка Алеся Есакова Р. Няхай пабачыў адно такое выданне (нейкую газетку на беларускай мове, назву не памятае), дзе была змешчана за подпісам У. Кандрацені маленькая, радкоў на 50

Красавіцкай ноччу 1817 г., у маленькім швейцарскім гарадку Салюр кантона Залатурн, у доме бургамістра Франца Цэльтнера стары чалавек пісаў тэстамент. Рыпела гусінае пяро, і на паперы ўзнікалі словы: «Глыбока адчуваючы, што прыгонны стан супярэчыць закону прыроды і дабрабыту народаў, я сведчу гэтым, што знішчаю яго цалкам і на вечныя часы ў маім маёнтку Сехнавічы Брэст-Літоўскага ваяводства як ад уласнага імя, так і ад імя наступных яго ўладальнікаў. Я прызнаю жыхароў вёскі, якія належаць да гэтага маёнтка, вольнымі грамадзянамі і нічым не абмежаванымі гаспадарамі зямель, якімі яны валодаюць. Я звальняю іх ад усякага без выключэння чыншу, паншчыны і асабістых павіннасцей, якія ім да гэтага часу належала выконваць у адносінах да ўладальнікаў гэтага маёнтка. Я заклікаю іх толькі, каб яны дзеля сваёй уласнай і дзеля карысці Радзімы паклапаціліся аб наладжванні школы і пашырэнні асветы сваіх дзяцей».

Гэтым уладальнікам Сехнавічаў, што знаходзяцца паблізу Жабінкі на Брэстчыне, быў Андрэй Тадэвуш Касцюшка.




**Кастусь ТАРАСАЎ**

# „Айчына абаронцам сваім“

**Паўстанне 1794 года: героі і карнікі**

ПАХОДЗІЎ Касцюшка са старадаўняга беларускага роду. Далёкі яго прапрадзед Фёдар атрымаў Сехнавічы ад вялікага князя Казіміра ў 1458 г. Сыну свайму Фёдар даў імя Канстанцін, той служыў пісарам у вялікакняжацкай канцылярыі, яго паважаў і любіў Жыгімонт Стары і пяшчотна называў Кастусь, Касцюшка — адгэтуль пайшло прозвішча роду. Гербам Касцюшкі мелі «Рох трэці», большасць з іх вылучалася на сярэдніх пасадах вайсковай службы. Маёнтак Сехнавічы быў невялікі, Канстанцін Фёдаравіч выстаўляў з яго ў войска «тры коні». Жонкай Кастуся стала Ганна Гальшанская, з княжацкага роду, парадненага з польскімі каралямі і вялікімі князямі літоўскімі праз шлюб сясцёр Гальшанскіх з Ягайлам і Вітаўтам. Да сярэдзіны XVII ст. Касцюшкі, якіх ужо стала багата, трымаліся праваслаўя, але ў часы «патопу», як і большасць брэсцкай шляхты, адышлі ад дзедаўскай веры — адны ў каталіцтва, другія прынялі уніяцтва. Сехнавіцкія Касцюшкі былі каталікамі. Бацька Тадэвуша (імя яго было Людвік), вызначаўся энергіяй, дамогся ў 1731 г. тытула мечніка ваяводства Брэсцкага, абіраўся ў ў Літоўскі трыбунал, здолеў нейкім чынам адсудзіць у Сапегаў маёнтак Мерачоўшчына за вярсты дзве ад Косава, менавіта на тым месцы, дзе зараз разбураецца дажджамі прыгожы будынак Косаўскага палаца.

У Тадэвуша былі дзве сястры — Ганна і Катарына, а таксама брат Юзаф. Маці паходзіла з Ратомскіх, звалася Тэкля. Лічыцца, што яна была праваслаўная і па нараджэнні чацвёртага дзіцяці хрысціла яго ў царкве, дзе той і атрымаў імя Андрэй, а ўжо бацька перахрышчваў яго на каталіка ў Косаўскім касцёле. Можа, два гэтыя хрышчэнні і далі Тадэвушу доўгі век, бо смерць часцяком круцілася вакол яго, ды і ён сам неаднойчы шукаў з ёй сустрэчы. Юзаф і Катарына памерлі яшчэ да паўстання. Ганна сканала ў 1814 г. Бацьку Тадэвуш страціў у дзесяць год.

Жылі Касцюшкі са 115 валок (2400 гектараў). Дзяліць іх на чатырох не прыходзілася. Тадэвуш Касцюшка за выключэннем некалькіх гадоў жыў на ўласны заробак. Сехнавічамі карысталіся брат, які меў невялікія гаспадарскія здольнасці, потым сястра Ганна, потым яе дзеці, пляменнікі Тадэвуша, хоць лічыліся Сехнавічы за Касцюшкам.

У 1765 г. Касцюшка паступіў у новастворany Варшаўскі кадэцкі корпус — вышэйшае афіцэрскае вучылішча, дзе спецыялізаваўся на ваеннага інжынера. Тут Тадэвуш Касцюшка атрымаў ад сваіх калегаў мянушку «Швед з-пад Брэста», бо падобна Карлу XII падымаўся а чацвёртай гадзіне і, каб прагнаць сон, апускаў ногі ў балею з ледзяной вадой, якую з ночы ставіў пры ложку. Засведчана сябрамі па корпусу, што быў ён забіяка, не ўхіляўся ад дуэляў і меў некалькі шрамаў — адзнак мужнасці. Разам з тым адзначалі яго лагоднасць і таварыскасць. Вучыўся ён старанна, стаў вядомы з поспехаў у картаграфіі і малюнку, — пры іншых умовах, пэўна, атрымаўся б з яго неблагі мастак.

Сімпатыя і клопат начальніка корпуса князя Чартарыйскага умагчымілі Касцюшку паездку ў Парыж, дзе ён працягваў ваенную навуку, што, аднак, было прыкрыта наведваннямі Акадэміі жывапісу і мастацтваў. Грошай ён меў небагата, і часцяком шклянка кавы і булачка былі выдатным снеданнем і выдатнай вячэрай. Затое Касцюшка быў у сталіцы свету, адшукаў сяброў, хадзіў па салонах, чытаў Вальтэра і Русо, і атмасфера пярэдадня Вялікай Французскай рэвалюцыі выхоўвала ягоную свядомасць.

Вясной 1775 г. Касцюшка вярнуўся на радзіму. Вакантнага месца ў войску не было, Тадэвуш чакаў патэнта, жывучы ў Сехнавічах. Непадалёк знаходзіліся Сасновіцы, якімі валодаў заможны і ўплывовы тытулярны ваявода смаленскі Сасноўскі. (Тытулярны ў дадзеным выпадку азначае тое, што тытул Сасноўскі меў, а ваяводства не меў, бо яно даўно было адваёвана Расіяй). Касцюшка, чалавек адукаваны, які пабачыў Еўропу, а да таго ж і здольны мастак, быў запрошаны панам ваяводам у свой маёнтак, каб даваць урокі малявання дачцэ Сасноўскага Людвісе. Дзяўчыне было 19, капітану Касцюшку —27 гадоў. Маладыя людзі пазнаёміліся ў маі. Нічога дзіўнага, што стары парк з утульнымі альтанкамі, цуд салаўіных спеваў паспрыялі Тадэвушу і Людвісе закахацца. Каханне цягнулася па кастрычнік, злая бацькоўская воля абарвала яго.

**Гуляючы з князем Станіславам Любамірскім у карты, Сасноўскі прайграў яму адзін са сваіх маёнткаў. Трэба было развітвацца з ім, што, вядома, адбівалася болем у сэрцы. Сасноўскі дамовіўся з князем, што аддасць за ягонага сына Людвісю, і такім чынам скасуе доўг. 13 верасня ў ваяводы быў яшчэ адзін шчаслівы дзень — ён атрымаў прывілей на пасаду гетмана польнага літоўскага. Гэта быў ужо сапраўдны ўрад. І вось жонка паведамляе яму, што, па яе назіраннях, сэрцы Касцюшкі і Людвікі працяў стрэламі Амур. Пан гетман польны адразу ж сустрэўся з Касцюшкам і мовіў яму, што як сінягорліца не для шэрага вераб'я, так дачка панская не для дробнага шляхцюка. Касцюшку прыйшлося сесці на каня і ад'ехаць. Але страціць каханую ён не меўся. Тадэвуш спланаваў выкрасці Людвіку і абвянчацца без згоды пыхлівага пана гетмана. На сваю бяду, ён абмовіўся пра задуму каралю. Панятоўскі, прыязны да Касцюшкі, гэты рыцарскі намер ухваліў, але ж паслаў людзей паведаміць Сасноўскаму. Касцюшка сабраў прыяцеляў, Людвіка ў дамоўленую ноч выйшла ў парк, і коні паімчалі іх па дарозе шчасця, а аршак сяброў ляцеў за імі, як вясельная дружына. Але харугва гайдукоў пайшла наўздагон... Людвіку адбілі. Касцюшку прыйшлося ўцякаць за мяжу, бо за наезд, выкрад дачкі гетман лёгка мог дамагчыся смяротнага выраку для злачынцы.**

**Уцячы ад гайдукоў Сасноўскага было няцяжка, а вось ад безграшоўя на кані не ўцячэш, яшчэ нікому на белым свеце гэта не ўдалося. Касцюшка апынуўся ў Францыі, але бедных там хапала і без яго.**

У ТОЙ ЧАС Амерыканскія Штаты ваявалі з Англіяй за незалежнасць. Манархічная Францыя, як адвечны вораг Англіі, падтрымлівала амерыканскіх рэспубліканцаў. Амерыканцам патрабаваліся дасведчаныя афіцэры, шмат французаў служылі там, і сябры падказалі Касцюшку, што вандроўка за акіян —найлепшы для яго сродак перамагчы тугу разлукі з каханай і засцерагчыся ад галечы. У 1776 г. Касцюшка сышоў на амерыканскую зямлю.

Тут ён убачыў тое, што не магло прысніцца на радзіме і што няхутка яшчэ з'явілася ў Еўропе, — вольных людзей, якія вырашылі, што не будуць жыць без роўнасці грамадзянскіх правоў, што створаць дзяржаву без саслоўяў, незалежную, самастойную, з павагай да працы, таленту, асабістай свабоды. Касцюшка аддаў амерыканскай арміі дзевяць гадоў жыцця. Разам з палкамі рэспубліканцаў ён удзельнічаў ва ўсіх галоўных бітвах, рызыкаваў жыццём, месяцамі гайдаўся ў сядле, распрацоўваў інжынернае забеспячэнне наступаў і абароны. Гэта Касцюшку належыць праект тыповага форта, прыстасаванага да ўмоў Амерыкі і магчымасцей рэспубліканскай арміі — напаўгалоднай, неапранутай, неабутай, вымушанай натхненнем замяняць порах, а ўпартасцю падвойваць шэрагі сваіх рот. Рэспубліка дала Касцюшку чын генерала, ён стаў ганаровым грамадзянінам Амерыканскіх Штатаў, але ад'язджаў з Новага Свету такім жа, бадай, бедным, як і прыехаў.

Апошняя акалічнасць, дарэчы, адбілася на другім каханні Касцюшкі, якое ён памятаў да канца дзён. Закахаўся ён у Тэклю Журоўскую, дачку харунжага брэсцкага. Бацька Тэклюсі хоць і не вылучаўся заможнасцю, але быў не меней фанабэрысты, чым ваявода Сасноўскі. На бацькоў сваіх каханых Касцюшку сапраўды не шанцавала: ён пасватаўся, але пан Журоўскі наравіўся, як бык. «Валацуга! — тлумачыў ён сваю непрыязнасць суседзям. — Гойсаў па Амерыцы, як татарын па стэпе, нічога не прыдбаў. І да таго ж злодзей — хацеў пана ваяводы Сасноўскага дачку ўкрасці! Хаты не мае, дзе жонку трымаць!»

Тэклюся ўсё жыццё потым трымала ў медальёнчыку выяву Касцюшкі і пасмачку яго валасоў. Касцюшка пакутаваў, да апошняга дня лічыў за свой найкаштоўны скарб лісты Тэклюсі, але наезд на пана харунжага не зрабіў і дачку ў бязлітаснага бацькі сілай не ўзяў. Можа, у старэчыя бяссонныя ночы ён і шкадаваў аб гэтым, бо яго пазнейшыя лісты да пані Тэклі працятыя старасвецкай сентыментальнасцю і замілаваннем перад памяццю аб днях вялікага шчасця.

Неўзабаве прыйшоў да Касцюшкі патэнт генерал-маёра, а потым і генерал-лейтэнанта. Францыя ўжо святкавала другія ўгодкі рэвалюцыі. У Варшаве трэці год цягнуўся вальны сейм. Нарэшце, пад уплывам французскіх падзей сейм прыняў шэраг рэформаў, а 3 мая 1791 г. зацвердзіў Канстытуцыю, якая абвяшчала спадчыннасць праўлення і свабоду веравызнання, знішчала «ліберум вета»,ураўнівала перад законам усе саслоўі, у тым ліку і сялян. Шляхце дазвалялася гандляваць, мяшчанству — займаць ваенныя і свецкія пасады, у склад сейма ўводзіліся прадстаўнікі гарадоў. Але на шляху ўвасаблення Канстытуцыі ў жыццё паўсталі магутныя перашкоды. Вось што пісаў пра гэта Фрыдрых Энгельс: «Канстытуцыя 1791 г., якая абвясціла правы чалавека і грамадзяніна, сталася сцягам рэвалюцыі на берагах Віслы, зрабіўшы Польшчу авангардам рэвалюцыйнай Францыі, і якраз у той момант, калі тры дзяржавы, што аднойчы ўжо абрабавалі Рэч Паспалітую, аб'ядналіся, каб пайсці на Парыж і задушыць рэвалюцыю. Хіба маглі яны дазволіць, каб у цэнтры кааліцыі звіла сабе гняздо рэвалюцыя? — Ні ў якім выпадку. Зноў накінуліся яны на Польшчу, на гэты раз з намерам канчаткова пазбавіць яе нацыянальнага існавання».

Але каб накінуцца, патрабаваліся фармальныя зачэпкі. Групоўка магнатаў, якую ўзначалілі Браніцкі, Патоцкі і Ржэвускі, склала ўзброеную канфедэрацыю і звярнулася па дапамогу да Кацярыны II. Акт канфедэрацыі, напісаны пад пільным назіраннем расійскай імператрыцы і абвешчаны ў мястэчку Таргавіца Кіеўскай губерні, заклікаў змагацца супраць Канстытуцыі 3 мая, за абарону вольнасцей шляхты і каталіцкай царквы. У маі 1792 г. рускае войска колькасцю 32 тысячы салдат на чале з генерал-маёрам Крачэтнікавым уступіла на Беларусь. Другая руская армія, якую вёў генерал-маёр Кахоўскі, рухалася на Польшчу з Украіны. За імі пасоўваліся таргавіцкія канфедэраты. Адпор узначалілі Панятоўскі і Касцюшка. Але арміі Крачэтнікава і Кахоўскага захапілі Падолле і Валынь, большую частку Беларусі, Гродна і Вільню. Пасля няўдалых бітваў пад Мірам і Брэстам войскі Вялікага княства перайшлі Буг. Гэта адбылося 23 ліпеня, а назаўтра кароль далучыўся да Таргавіцкай канфедэрацыі. Супраціўляцца тым больш было немагчыма, што адначасна з рускімі арміямі супраць Польшчы выступіла прускае войска Фрыдрыха II.

У верасні таргавіцкія канфедэрацыі Кароны і Княства аб'ядналіся ў «Найсвятлейшую канфедэрацыю абодвух народаў». Рэформы, прынятыя Чатырохгадовым сеймам, і Канстытуцыя 3 мая былі скасаваныя. У 1793 г. адбыўся другі падзел Рэчы Паспалітай. Прусія атрымала Торн і Гданьск з землямі. Да Расіі адышлі Валынь, Падолле, Мінскае ваяводства агульнай плошчай 4550 квадратных міль з насельніцтвам тры мільёны чалавек.

У наступныя два гады з уніі ў праваслаўе перавялі 463 прыходы, 330 тысяч чалавек, потым яшчэ 100 тысяч, і яшчэ 100 тысяч. Да таго ж, з 28 мая 1772 г. на беларускіх землях пачала здзяйсняцца русіфікацыя. Пачатак ёй паклаў «Наказ» Кацярыны II генерал-губернатарам на далучаных землях, дзе 31 пункт абавязваў: «Дела вы имеете производить на российском языке, т. е. все издаваемые от вас какого бы звания ни были приговоры, решения или повеления, присовокупляя к тому переводы, где оные нужны будут, и припечатывая их губернской печатью». Паланізацыя праз школу пачала замяняцца русіфікацыяй праз школьнае навучанне. Галоўнымі дысцыплінамі ў 4-класных і 2-класных народных вучылішчах сталі руская мова, руская гісторыя і геаграфія, «закон божы» праваслаўнай традыцыі. Старыя настаўнікі замяняліся выпускнікамі Пецярбургскай настаўніцкай семінарыі. Зразумела, гэта недастатковыя падставы для сур'ёзнага незадаволення. Больш значнымі былі секвестраванне маёнткаў, раздача зямель і сялян рускаму дваранству, вялізная страта тэрыторый і насельніцтва, скасаванне чужынцамі Канстытуцыі, зачыненне перспектывы паляпшэння народнага жыцця. Натуральна, што перадавыя колы Рэчы Паспалітай, патрыятычныя пачуцці, гістарычная свядомасць бальшыні жыхарства не змаглі змірыцца са здзекам, які ўчынілі манархі Прусіі, Расіі і Аўстрыі.

ВЯСНОЙ 1794 г. выбухнула паўстанне.

Начальнікам паўстання быў абраны Тадэвуш Касцюшка. 24 сакавіка ён абвясціў у Кракаве «Акт паўстання», а 4 красавіка разбіў пад Рацлавіцамі войска генерала Тармасава. У гэтым бai асабліва мужнасцю і самаахвярнасцю вызначыліся атрады касінераў. Праз два тыдні гарадскімі нізамі была вызвалена Варшава. 7 мая Тадэвуш Касцюшка выдаў «Маніфест», так званы Паланецкі універсал, які надзяляў сялян асабістай воляй, пры ўмове, што яны разлічацца з панамі і дзяржавай, прызнаваў за імі права на зямлю, якую яны апрацоўвалі, абмяжоўваў паншчыну. Гэта павярнула да паўстання сялян, у ім удзельнічала больш за 150 тысяч чалавек. Пры Касцюшку была створана Найвышэйшая нацыянальная рада.

На Літве і Беларусі паўстанцаў узначаліў Якуб Ясінскі, інжынер-палкоўнік. Апоўначы 22 красавіка ў Вільні загучалі касцельныя і царкоўныя званы. Гэта быў сігнал—«Да зброі!». А трэцяй гадзіне паўстанцы перамаглі супраціўленне гарнізона. Быў арыштаваны царскі намеснік генерал Арсеньеў. Гетман Шыман Касакоўскі, стаўленік Кацярыны II, пасля непрацяглага бою быў захоплены ў сваім палацы. Нянавісць, якую заслужыў Касакоўскі, адлілася ў суровы вырок рэвалюцыйнага суда, які пастанавіў адправіць здрадніка на шыбеніцу. Назаўтра на рынкавай плошчы апошні гетман Вялікага княства Літоўскага завіснуў у пяньковай пятлі.

Якубу Ясінскаму пад час паўстання было 33 гады, ён узначальваў тайную арганізацыю віленскіх якабінцаў. Як левы

# АБАРОНА-90

**Мастаку наканавана здаваць экзамены ўсё жыццё. «Адзнакі» ж яму выстаўляюць розныя камісіі, якія бяруць ці не бяруць ягоны твор у экспазіцыю, прызначаюць цану за работу... А таксама — заказчык, глядач, крытык. З гэтым звыкаешся. Але адзін экзамен застаецца ў памяці назаўсёды. Абарона дыплома. Падвядзенне вынікаў пяці ці шасці год працы. Гэта апошняя работа навучэнца і адначасова першая работа майстра. Па дыпломах студэнтаў Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута можна пісаць гісторыю нашага мастацтва. Год за годам...**

У ІНСТЫТУЦЕ традыцыйна моцнай лічыцца кафедра графікі. Досыць высокі прэстыж кафедры манументальна-дэкаратыўнага мастацтва. Здаецца, недалёкі час, калі можна будзе гаварыць пра самабытную беларускую школу скульптуры. Ужо колькі год менавіта гэтыя тры кафедры прадстаўляюць найбольш цікавыя дыпломныя работы сваіх выхаванцаў. Так мяркуюць гледачы, крытыкі і, ў большасці сваёй, самі мастакі.

Чаму ж ніводнага разу, колькі я памятаю, агульная увага не канцэнтравалася на арыгінальных, таленавітых творах студэнтаў мастацка-прамысловага факультэта, які аб'ядноўвае кафедры дызайна, выяўленчых сродкаў агітацыі і рэкламы, інтэр'ера і абсталявання а таксама дэкаратыўна-ўжытковага мастацтва? Відаць, таму, што прадстаўнікі традыцыйных відаў выяўленчага мастацтва звычайна прадстаўляюць гледачам закончаны твор, а іхнія калегі з мастацка-прамысловага факультэта — толькі ідэю, рэалізаваць якую павінна прамысловасць. Твор дызайна толькі тады робіцца паўнацэнным творам, калі сыходзіць з заводскага канвеера ці з друкарскага станка.

**Дызайн нарадзіўся як сродак канкурэнтнай барацьбы ва ўмовах рынку, перанасычанага спажывецкімі таварамі. Спалучэнне дызайна і картачнай сістэмы — нонсенс. Таму пра «савецкі дызайн» можна гаварыць толькі ўмоўна, маючы пры гэтым на ўвазе, што і ў нас таксама ёсць таленавітыя людзі, якія пры спрыяльных умовах маглі б зрабіць нешта не горшае, чым на Захадзе. «Савецкі дызайн» — гэта тое, што калі-небудзь можа быць. Таму і абарона дыпломаў студэнтаў-дызайнераў у Беларускім тэатральна-мастацкім — гэта не больш чым дэманстрацыя незапатрабаваных грамадствам талентаў і неіснуючых у нашай прыродзе рэчаў.**

**Калі кафедра дызайна ў БДТМІ толькі стваралася, методыка навучання толькі распрацоўвалася, студэнтаў свядома арыентавалі ў курсавых і дыпломных работах на тэмы, часам вельмі далёкія ад канкрэтных патрэб спажыўцоў і вытворчасці. Гэта былі праекты-дэкларацыі, праекты-маніфесты. Студэнтаў такім чынам прывучалі да думкі, што яны, як будучыя дызайнеры, здольныя зрабіць нешта асаблівае. Відаць, у гэтым быў сэнс. Студэнты займаліся «дызайнам · дзеля дызайна». Праўда, потым жыццё прымусіла быць бліжэй да зямлі, да яе жорсткай паверхні... І тут стаў відавочны парадокс: распрацоўка неабходных грамадству рэчаў мае такі ж канчатковы вынік, як і праектаванне паветраных замкаў.**

**Возьмем хоць бы сёлетнія дыпломы. Добрая тэма «Фірменны стыль цягніка «Беларусь» (дыпломнік Алег Карабко). Але навошта прываблівань пасажыра фірменным стылем і дбаць аб сэрвісе? Паспаўшы некалькі начэй на цэментнай падлозе залы чакання і пастаяўшы некалькі дзён у чэргах за білетамі, кліент будзе шчаслівы ехаць хоць у таварным вагоне — абы ехаць! (Праўда, Мінск — Масква — маршрут пакуль што адносна прыстойны). І «Рэкламная графіка беларускай керамікі» (Таццяна Дубаневіч) — таксама добра. Але якасныя вырабы наш неразбэшчаны пакупнік возьме і загорнутымі ў газету, якую, калі трэба, сам жа купіць у бліжэйшым кіёску.**

**«Індывідуальны транспартны сродак для інвалідаў» (Віктар Каваль) і «Транспартны сродак для дома прэстарэлых» (Ірына Аўтухова) — рэчы неабходныя. І дзякуй студэнтам, якія ўзяліся за іх распрацоўку. Але наша прамысловасць пакуль што здольная задаволіць толькі масавы попыт на мыліцы, канструкцыя якіх застаецца нязменнай з XVIII стагоддзя. Падобныя праектныя прапановы студэнтаў — гэта тая ж самая прыватная дабрачыннасць, якой сёння спрабуюць падмяніць дзяржаўныя сацыяльныя праграмы.**

**Гледзячы на дыпломныя работы дызайнераў — трэнажор, швейная машынка, жылы комплекс, атракцыён, абсталяванне кавярні, пыласос, я думаў пра тое, што для нас дызайн пакуль што — «мастацтва XXI стагоддзя». Студэнцкія праекты прадугледжваюць тэхналогію, якой масавая вытворчасць не мае. Гэта прыгожа і нават велічна як карабель іншапланецян на фоне калгаснай фермы ці заходнееўрапейскі турысцкі аўтобус на мінскіх вуліцах.**

На кожнай абароне дыпломаў у БДТМІ ёсць свая «суперзорка» — дыпломная работа, гаворка пра якую пачынаецца ўжо за паўгода да абароны і прэм'ера якой збірае найбольшую колькасць гледачоў. Прыгадаю з мінулых гадоў бліскучыя абароны дыпломаў Святланай Гарбуновай (помнік Сымону Буднаму ў Нясвіжы), Валер'янам Янушкевічам (помнік Адаму Міцкевічу для Навагрудка). У гэтым годзе «суперзорка» заззяла на кафедры манументальна-дэкаратыўнага мастацтва. І быў гэта Аляксандр Пушкін. Ягоная дыпломная работа, роспіс фае актавай залы Рэспубліканскай школы-інтэрната па музыцы і выяўленчаму мастацтву імя Ахрэмчыка, уражвае памерамі — 215 квадратных метраў, і высокім прафесіяналізмам (на абароне прагучала меркаванне, што калі б гэты роспіс быў калектыўнай работай, якую б выканалі разам усе шэсць сёлетніх выпускнікоў кафедры, дык кожнага варта было б адзначыць самай высокай ацэнкай).

Тэма роспісу — «Парнас». Гэта жыццяпіс мастака і гісторыя мастацтва. Гэта партрэты канкрэтных асоб, з якімі ён сустракаўся пад час вучобы ў школе-інтэрнаце і ў інстытуце. Людзі, якія паўплывалі на станаўленне ягонага светапогляду, і якім мастак удзячны за добрыя словы і ўчынкі. Гэта — першы ярус кампазіцыі, так бы мовіць, «зямля». А на «небе»— постаці вялікіх сыноў беларускай нацыі і выдатных дзеячаў сучаснай культуры.

Трэба дадаць, што Аляксандр Пушкін выдатна вырашыў складаную канструктыўную задачу. Сваім роспісам ён, як кажуць, «выцягнуў», «абыграў» вельмі невыразную архітэктуру. Цяпер гэты інтэр'ер, які раней выклікаў асацыяцыі з бункерам, — жыве, дыхае.

У дзень абароны мастак пачуў у свой адрас столькі прыемных слоў, колькі за апошні год лаянкі з боку афіцыйнай прэсы і яе верных чытачоў. Старшыня Дзяржаўнай экзаменацыйнай камісіі, дэкан Інстытута імя Рэпіна, народны мастак РСФСР, правадзейны член Акадэміі мастацтваў СССР, прафесар Уладзімір Аляксеевіч Ветрагонскі сказаў, што работа Аляксандра заслугоўвае залатога медаля Акадэміі мастацтваў, і павіншаваў усіх «с рождением великого художника».

Дыпломныя работы, выкананыя на аб'ектах, прадставілі яшчэ чатыры выпускнікі кафедры — Камал Гаджыеў, Аляксандр Сальнікаў, Уладзімір Халецкі, Артур Васілевіч, хоць згодна юнуючаму палажэнню можна было б абысціся дэманстрацыяй эскіза роспісу і фрагментам у матэрыяле. Спрэчнымі падаліся мне работы У. Халецкага — роспіс у Мінскім доме інвалідаў і састарэлых, і А. Васілевіча — роспіс плафона у фае фізкультурна-аздараўленчага камбіната ў Масюкоўшчыне. Відаць, і ў саміх членаў дзяржаўнай экзаменацыйнай камісіі узніклі пытанні, ці адпавядаюць тэматычна і стылёва гэтыя роспісы спецыфіцы названых устаноў; ці не былі гэта так званыя «хатнія загатоўкі», механічна ўнесеныя ў не зусім падыходзячае для іх асяроддзе.

**Кафедры станковага жывапісу і графікі сёння асаблівымі адкрыццямі публіку не парадавалі. Я асабіста адзначыў бы добрыя каларыстычныя якасці ў жывапісным трыпціху Віталя Герасімовіча «Прыналежнасць» і ўдалую спробу адысці ад некаторых стылістычных стэрэатыпаў беларускай графікі ў серыі афортаў Ігара Арлоўскага «Мелодыі купальскай ночы». Калі ёсць стыль і школа Кашкурэвіча, Шаранговіча, Савіча, можна зрэшты і не шукаць самому, усё жыццё пражыць на запазычаннях, кампіляцыях. Тым больш прыемна бачыць творчую самастойнасць у дыпломнай рабоце.**

**Сярод скульптараў запомніліся мне сёлета двое. Юрый Анушка, аўтар пяціфігурнай алегарычнай кампазіцыі «Памяці задушанага паўстання 1863 года». Юрый стварыў вобразы блізкія таму часу не толькі сваім драматызмам, унутранай напружанасцю, але і вонкавай экспрэсіяй. Кампазіцыя магла лёгка ўжыцца ў характэрны інтэр'ер беларускага каталіцкага храма, бо мастак свядома браў за стылістычную аснову скульптурную пластыку нашых касцёлаў. Другі скульптар — Ігар Чумакоў. Ён прадставіў на абарону двухфігурную кампазіцыю «Помнік Уладзіславу Сыракомлю» для Нясвіжа. На абмеркаванні дыплома прагучала сумненне адносна памераў помніка: ці не занадта ён вялікі для маленькага горада. Але тое ж калісьці казалі і аб праектах помнікаў Купалу і Багдановічу ў Мінску. Ці будзе твор Ігара Чумакова ўпрыгожваць Нясвіж? Цяжка сказаць. Нават, калі мясцовыя ўлады знойдуць у гарадскім бюджэце грошы на адліўку і ўстаноўку помніка, дык ці згодзіцца ліцейны цэх у Калядзічах на аплату грашыма? Вядома, што кліенты «ліцейкі» ў Калядзічах з іншых рэспублік расплачваюцца «натурай» — будаўнічымі матэрыяламі і іншымі патрэбнымі рэчамі. Вось так, ужо з дыпломнай работы, пачынаюцца спецыфічныя «творчыя» праблемы.**

Абарона - 90 закончылася. Хай бы яна наблізіла наступленне лепшых часоў у нашай культуры.

Пётра ВАСІЛЕЎСКІ.

Абарона дыпломнай работы А. Пушкіна (роспіс «Парнас») Фрагменты роспісу

# МУЗЫКІ НА ВУЛІЦАХ ГОРАДА

**Падобнага свята раней не было, таму і назвалі яго першым Рэспубліканскім конкурсам духавых аркестраў. Тры дні сваё майстэрства паказвалі гледачам Мінска самадзейныя калектывы з шасці абласцей Беларусі.**

**Кожны дзень на адкрытай пляцоўцы парку імя М. Горкага з раніцы і да вечара гучалі мелодыі — музыкаў уважліва слухалі члены журы, якое ўзначальваў народны артыст БССР, прафесар Б. Пянчук.**

**У заключнай праграме кожны аркестр павінен быў выступіць у канцэрце да 30 мінут. Па рашэнню журы дыпломы І ступені ўручаны аркестрам Палаца культуры аб'яднання «Шкловалакно», Ляхавіцкага Дома культуры і аркестру «Гелікон» светлагорскага ВА «Хімвалакно». Дыпломы ІІ ступені атрымалі аркестр Магілёўскага Палаца культуры тэкстыльшчыкаў імя XXV з'езда КПСС, Віцебскага гарадскога цэнтра культуры, Магілёўскага Дома культуры і аб'яднанне аркестраў г. Наваполацка. Сярод дыпламантаў — аркестры з Рэчыцы, Оршы і Стаўбцоў.**

**Астатнім аркестрам —удзельнікам конкурсу ўручаны дыпломы за актыўны ўдзел у конкурсе.**

**Самае ўрачыстае відовішча адбылося ў апошні дзень свята. 1 ліпеня конкурс завяршыўся святам духавой музыкі і гарадскім марш-парадам.**

**— Свята прайшло быццам і не блага, — сказаў яго галоўны рэжысёр, дацэнт Мінскага інстытута культуры Пётр ГУД. — Але па-сапраўднаму добрага настрою яно не прынесла. Мы яшчэ раз пераканаліся, які фінансавы мізэр адпускаецца на нашу культуру. Азмрочаны настрой і тым, што не ўсе аркестры змаглі прыняць удзел у конкурсе. Чаму? Іх проста не адпусцілі прадпрыемствы, і тут нічога не папішаш. Не змаглі прыехаць калектывы са Слуцкага ГДК, вытворчага аб'яднання «Гомельдрэў». Парадокс, але факт: у сталіцы рэспублікі ёсць шмат духавых аркестраў, а аркестр Мінскага трактарнага завода з'яўляецца лаўрэатам Усесаюзнага конкурсу, і нікога з іх на свяце мы не ўбачылі...**

**НАШ КАР.**

# ФЕСТЫВАЛЬ ЗАВЯРШЫЛІ ДЗЕЦІ

**У Палацы культуры і тэхнікі Мінскага аўтазавода конкурсам дзіцячых ансамбляў танца завяршыўся першы ў гісторыі Беларусі Рэспубліканскі фестываль беларускага народнага танца. Толькі ў заключным туры прынялі ўдзел 12 калектываў са званнем «узорны самадзейны калектыў». Пасля доўгага абмеркавання вышэйшую ўзнагароду — званне лаўрэата рэспубліканскага конкурсу узорных ансамбляў танца 1990 г. журы прысвоіла дзіцячаму ансамблю танца «Лянок» Палаца культуры Мінскага трактарнага завода імя У. І. Леніна (мастацкі кіраўнік Г. Чысцякова). Дыпломам першай ступені конкурсу ўзнагароджан ансамбль «Весялушка» Мінскай школы мастацтва (мастацкія кіраўнікі Ірына і Станіслаў Дарохіны). Дыпламантамі другой ступені сталі два калектывы: «Праменьчык» Брэсцкага гарадскога Палаца піянераў і школьнікаў (мастацкі кіраўнік Т. Натарава) і «Чабарок» Мінскага Палаца піянераў і школьнікаў (мастацкі кіраўнік Н. Дзягель). Дыплом трэцяй ступені атрымалі калектывы «Раніца» Барысаўскай СШ № 2 (мастацкія кіраўнікі Н. Буйно і А. Цюцюноў) і «Лялечкі» Дома культуры калгаса «Шлях да камунізму» Гродзенскага раёна (мастацкі кіраўнік Н. Урукіна). Астатнія калектывы, якія прымалі ўдзел у фестывалі, узнагароджаны спецыяльнымі дыпломамі.**

**Прызамі Рэспубліканскага навукова-метадычнага цэнтра культуры «За зберажэнне рэгіянальных традыцый у сцэнічных харэаграфічных творах» і «За лепшае вобразнае рашэнне сцэнічных касцюмаў» адзначаны ўзорны ансамбль танца «Праменьчык» з Брэста. Прызам Дзяржаўнага ансамбля танца БССР за высокае выканаўчае майстэрства ўзнагароджаны ансамбль танца «Зубраня» ПК Мінскага аўтазавода, прызам Дзяржаўнага фальклорна-харэаграфічнага ансамбля «Харошкі» — за лепшую апрацоўку беларускага народнага танца — узорны ансамбль танца «Ляльні» Баранавіцкага ГДК.**

**Былі ўручаны таксама прызы ансамбля народнай музыкі «Свята» і Міністэрства народнай адукацыі БССР, ЦК ЛКСМБ і Рэспубліканскага Палаца піянераў і школьнікаў, Музычнага таварыства БССР і Рэспубліканскага аддзялення дзіцячага фонду БССР.**

# ПАЕЗДКА Ў „ЗОНУ“

(Пачатак на стар. 4).

Дырэктар школы В. Касабуцкая (Юрчанкова), дэлегат XXVIII з'езда КПСС, паведамляе, што з 413 вучняў СШ № 2, дзе яна працуе, больш двухсот зусім хворыя. У вучняў апатыя да ўсяго, ужо з другога ўрока яны спяць ці дрэмлюць; з носа часта ідзе кроў. Нармальны навучальна-выхаваўчы працэс нельга арганізаваць, бо ў школе толькі адна сталоўка на 50 месцаў; дзеці месяцамі не бачаць бацькоў, а бацькі — дзяцей. Толькі адсяленне сем'яў з дзецьмі можа штосьці палепшыць, і гэта павінна быць зроблена як найхутчэй: рашэнні ж павінны прымацца на карысць чалавека, а не супраць яго...

Жыхарка Амелькаўшчыны — той самай, што павінны былі даўно выселіць, ды не высяляюць, просіць, каб у вёску завезлі хоць бульбы, есці ж людзям няма чаго. Яна гаворыць, што лес, які ратаваў раней і ў вайну, і пасля яе — стаў проста пракляццем. Замок на яго не павесіш, а таму дзеці ходзяць у лес і ў ягады, і ў грыбы. А там жа радыяцыя ў некалькі разоў большая, як на полі! Жанчына просіць, каб пасялілі іх вёску ўсю разам, не раскідвалі па некалькі сем'яў па ўсім белым свеце...

Выступаюць рабочыя, калгаснікі, пенсіянеры... У кожнага з іх сваё гора, свая бяда. І яны дзеляцца імі, просяць рады, помачы. А іншыя ўжо не просяць, а патрабуюць. Бо што ж гэта такое, кажа адзін з іх, будаўнік: нас паслалі будаваць жыллё для людзей у Мар'іну Горку, а прымушаюць будаваць свінакомплекс. Што, выходзіць, свінні для некаторых даражэй за людзей?

Сустрэча цягнецца амаль тры гадзіны. І пасля не разыходзяцца людзі, акружаюць нас, — не вырвацца. Я проста не пазнаю сваіх землякоў. Былі такія ціхія, рахманыя, маўклівыя, і раптам...

**Быць у сваім раёне і не заехаць да маці? Не, такога яшчэ ў маім жыцці не было.**

**Тым больш, што пасля сустрэчы ў РДК у фае ўбачыў я дырэктара саўгаса Вялікаборскі Аляксандра Дзмітрыевіча Рудабельца. Ён такі ж вясёлы, жыццярадасны, як і заўсёды. Сам ён родам з Брагінскага раёна, але год ужо з дзесяць узначальвае гаспадарку ў нашай вёсцы — спярша калгас, потым саўгас. З Рудабельцам мы знаёмы даўно, сустракаліся ў самай рознай абстаноўцы, як кажуць, у афіцыйнай і неафіцыйнай. Побач з Рудабельцам стаіць жанчына, і яе я пазнаю таксама — гэта старшыня нашага сельскага Савета Тамара Васільеўна Касько.**

**— Завезяце ў Вялікі Бор? — пытаю ў іх.**

**— А як жа, — усміхаюцца Аляксандр Дзмітрыевіч і Тамара Васільеўна.**

**— Былі на сустрэчы?**

**— Былі, — кажа Аляксандр Дзмітрыевіч.—У нас цяпер такія сустрэчы штодзень. Людзі праўду пра ўсё хочуць ведаць. А яе не кажуць... Нават зараз...**

**— Ну, цяпер, здаецца, гавораць больш чым калі, — не зусім згаджаюся я з Рудабельцам. — Не тое, што ў восемдзесят шостым годзе... Тады, калі мы прыехалі сюды з Шамякіным і Мятліцкім, нас ледзь не выганялі адсюль, каб, маўляў, панікі не сеялі...**

**— Вядома, цяпер гавораць больш, чым раней... Але... — махае рукою Рудабелец. — Вось і пра Вялікі Бор... Казалі, што гэта самае чыстае ў раёне месца... Перасялілі да нас з Брагінскага раёна Савічы, катэджы пабудавалі... А цяпер высвятляецца, што стронцыю ў нас выпала больш, чым нават у трыццацікіламетровай зоне. Узялі пробы з розных месцаў, павезлі правяраць. І калі пацвердзіцца... Высяляць трэба будзе Вялікі Бор, як і Амелькаўшчыну, як і іншыя вёскі... Спынілі ўсякае будаўніцтва, сядзім вось, чакаем, што скажуць вучоныя...**

**Невясёлая навіна. Я ж прывык ужо — што б і як далей ні было, але вёска мая астанецца, ніхто нікога з яе нікуды не будзе перасяляць. Аж...**

УЖО ЦЯМНЕЕ, калі мы пакідаем Хойнікі. А ў лесе і зусім робіцца цёмна. І я шкадую, што гэтак позна выбраліся. Хацеў жа Нілу Гілевічу многае і паказаць і расказаць. Я ж гэтую дарогу ведаю, як свае пяць пальцаў. Хадзіў па ёй і на базар і з базару, ды і ў школу па ёй хадзіў аж цэлыя тры гады! Пешкі, бо тады аўтобусы ў Хойнікі з Вялікага Бору не хадзілі. І сама дарога была не такая, як цяпер. Брады, грэблі, гразь... Цяпер тут асфальт, яго нядаўна зусім паклалі...

Рудабелец сядзіць за рулём, машыну ён водзіць хвацка. Але не забывае і пра гасцей — дзеліцца навінамі, клопатамі. Саўгасу патрэбен аўтобус.

— Бо калі перасяленне пачнецца — не абыдземся мы без аўтобуса, — уздыхае Аляксандр Дзмітрыевіч.

Пра неабходнасць мець сваю машыну гаворыць і старшыня сельсавета Тамара Васільеўна.

— Кажуць, цяпер уся ўлада пераходзіць Саветам, — кажа яна. — Як бы не так! Уся ўлада ў дырэктара саўгаса. Захоча — падвязе, дасць машыну. Гэта калі я з ім дружна жыць буду... Калі не — не дасць. І я яму нічога не зраблю... Вось вам і ўся ўлада Саветам...

Жыве Тамара Васільеўна ў вёсцы Партызанская, якая раней называлася Аўрамаўская. Сяму-таму здалося, што вёска паходзіць ад імя Аўрам, і яе замянілі на Партызанскую. На самай жа справе — вёска, а, дакладней, пасёлак, які да гэтага зваўся Гудоў, — вотчына паноў Аўрамавых, — яны купілі хойніцкія землі яшчэ да рэвалюцыі. І паколькі вёска Партызанская знаходзіцца за Вялікім Борам, мы праехалі Вялікі Бор, у якім сёння каля чатырохсот двароў, і Нілу Сямёнавічу, ураджэнцу Міншчыны, ён здаўся аж занадта вялікім. Высадзілі Тамару Васільеўну ля яе дома, развіталіся з ёю, вярнуліся ў Вялікі Бор.

Маці спала ўжо — пра свой прыезд я ёй не паведаміў. Давялося яе будзіць. Нарэшце, адчыніла яна дзверы. Як ніколі радая — апошнім часам не так часта наведваюць яе сыны, нявесткі, унукі і праўнукі.

— Іншыя не баяцца ніякай рацыі, — кажа яна. — А вы сільна граматныя, усяго баіцеся...

Знаёмлю маці з Нілам Сямёнавічам. Яна, выяўляецца, яго ведае не толькі як паэта, але і як дэпутата — кожны дзень глядзіць па тэлевізары сесію.

— Нешта вы не тым займаецеся, — адразу ж выказвае яна тое, што думае пра Вярхоўны Савет. — Па дробязях розных спрачаецеся, а ў людзей жа гора, памагчы ім трэба... Асабліва гэтыя... Проста гаварыць нікому не даюць...

Ніл Сямёнавіч здзіўляецца, я — таксама: не ведалі, што людзі гэтак уважліва сочаць за сесіяй Вярхоўнага Савета, чакаюць рэальных яе вынікаў.

Кажу маці, што просьбу яе выканаў — папрасіў, каб прывезлі ёй на апал брыкету. Рудабелец, які таксама зайшоў у хату, пачуўшы нашу размову, папярэдзіў маці:

— Але ж брыкет у нас вельмі радыеактыўны. Асабліва попел... Да грубкі нельга будзе падысці. Ды і яду тую, якая будзе варыцца на брыкеце, лепш не есці...

Маці паглядзела на Рудабельца, замахала рукамі:

— Тады не трэба мне той брыкет... Лепш дровы...

— Але ж і яны радыеактыўныя... Асабліва кара... — кажу я.

— Гэта я ведаю. Запаліш — кашаль душыць... Але ж паліць у печы нечым трэба, — задумліва кажа маці.

— Кідаць вёску трэба, у горад, да мяне перабірацца, — кажу я, як і заўсёды, калі прыязджаю да маці.

— Не пачынай, — грозіць кулаком мне маці. — Сказала, нікуды адсюль не паеду — і не паеду. Тут хачу памерці і каб тут, дзе ўсе мае, мяне пахавалі...

Селі за стол, павячэралі. Потым паехалі да Рудабельца — пакаштаваць маладой бульбы.

Жыве Аляксандр Дзмітрыевіч непадалёку ад саўгаснай канторы ў цагляным асабняку. У яго добра, па-сучаснаму абсталявана кватэра, вялікая бібліятэка, дзе мы з Гілевічам знаходзім і свае кнігі. Прыходзіць жонка, пачынаецца размова. Жонка незадаволена мужам, бо ён не кідае саўгаса, не выязджае адсюль.

— У нас двое дзетак, — кажа яна, — я не маю права рызыкаваць іх здароўем. І цяпер ужо яны хварэюць. Укінецца кашаль ці горла забаліць — вылечыць усю зіму не можам.

Аляксандр Дзмітрыевіч супакойвае жонку, але яна цвёрда стаіць на сваім:

— Толькі да восені я тут, а больш — ні дня... Забяру дзяцей і паеду...

— Куды? — пытае ў жонкі Аляксандр Дзмітрыевіч.

— Хоць куды, абы тут не быць...

Пасядзеўшы трохі за сталом, мы з Нілам Сямёнавічам просім адпусціць нас да маёй маці.

— Заўтра рана нам у Хойніках трэба быць. У «зону» ж паедзем, — паведамляем, як нешта важнае, Рудабельцу.

— Я ў «зоне» разоў ужо з дзесяць быў, — смяецца Рудабелец.

— Чаго? — пытаем мы.

— Там жа ўсё паастававалася пасля эвакуацыі. І машыны, і трактары, і сеялкі, веялкі...

— Дык і што?

— Ну, як выйдзе што са строю, дык і едзем туды запасных частак шукаць. Нідзе ж у іншым месцы іх не знойдзеш, хіба што там.

— А радыяцыя?

— Яна нас ужо не палохае. І дыхаем ёю, і ядзім яе. Усюды яна навокал нас. І пад намі, і над намі...

У хату да мае маці вяртаемся позна. Ніл Сямёнавіч заўважае:

— Якая ціхая ў вас ноч! Глуха-глуха... І дубы, грушы-дзічкі як шаломы на полі стаяць!

Так, ночы ў нас на Палессі сапраўды ціхія, глухія. Асабліва цяпер, калі навалілася сваім жудасным цяжарам на ўсіх нас чарнобыльская бяда...

## ДЗЕНЬ ДРУГІ, аўторак, 26 чэрвеня.

**ПРАЧНУЛІСЯ МЫ РАНА, не было яшчэ і сямі гадзін. Пакуль умываліся, галіліся, прыйшла братава, Колева, жонка Клава — яна ўдава, жыве насупраць маці праз вуліцу: учора, вяртаючыся з працы праз наш двор, яна злавіла вожыка і ўкінула яго, каб не збег, у старое бляшанае вядро — цяпер хацела выпусціць.**

**— Навошта ты яго лавіла? — спытаў я.**

**— Унуку хацела паказаць.**

**— Але ж вожык з жывёлы сама больш набірае радыяцыі, — паведаміў я ёй тое, пра што чытаў у нейкай газеце.**

**— О, тады няхай іншыя на яго глядзяць.**

**Пра мужа, брата Колю, як Клава жыве без яго — не асмельваюся пытаць. Ведаю Клаву — плачу ж, галашэння не абярэшся, на ўсю вёску будзе чуваць... і папрокі, папрокі будуць усім, а перш за ўсё тым, хто збудаваў «чорта таго» ў Чарнобылі — атамную электрастанцыю...**

**Потым да маці завітаў брат Грыша: прыехаў з лесу, дзе ён, перанёсшы летась інфаркт, працуе на падсочцы.**

**— І што, смала-жывіца твая чыстая? — пытаюся ў брата.**

**— Хто яе ведае. Прыязджаюць, забіраюць, вязуць у Барысаў. Там мяшаюць з чыстай — і...**

**— А ў лесе як?**

**— У лесе радыяцыя — аж трашчыць. Па дзве гадзіны дазваляюць мне толькі там быць...**

**Селі за стол, паснедалі. Тым часам прыехаў Рудабелец. Ён павёз нас паказаць тыя домікі, што пабудаваны для перасяленцаў. Што ж, домікі прыгожыя, з гародамі, хлявамі — можна ў іх жыць. Гэта пры ўмове, каб не было радыяцыі. Але ж яна ў Вялікім Боры ёсць. Калі па цэзію не вельмі значная, дык па ўсіх іншых радыенуклідах... Ах, як бы я, ды, мабыць, і ўсе вялікаборцы хацелі, былі б рады, калі б не пацвердзілася тое, пра што ўчора гаварыў Рудабелец. Пакуль жа што самі жыхары маёй вёскі не надта асцерагаюцца радыяцыі, ніхто ж іх паналежнаму не папярэдзіў пра яе небяспеку, не прачытаў лекцыі, што гэта такое, як жыць пры ёй. Перасяленцы ездзяць у сваю вёску Савічы, што знаходзіцца ў «зоне», сеюць там былыя свае агароды, а восенню ўсё, што там вырастае, прывозяць у Вялікі Бор. Самі ядзяць і іншым прадаюць. А калі хтонебудзь што скажа, адказ гатовы:**

**— Там жа больш за паўсотню людзей і цяпер жыве, у нашых Савічах, — кажуць яны. — Нават дзеці... Вось як да электрыкі зноў падключаць, то і мы паедзем...**

**Паказаў Рудабелец нам і ферму, дзе адкормліваецца ў год дзесяць тысяч бычкоў, якіх звозяць з усяго раёна, нават з самых забруджаных радыяцыяй вёсак. Ферма сучасная, добра абсталяваная.**

**— Адкуль вам дастаўляюць кармы? — спытаўся я ў Рудабельца.**

**— Ніадкуль. — адказаў дырэктар саўгаса. — Кормім тым, што расце на нашых лугах, палях...**

**— І як бычкі — «чыстыя»?**

**— Калі пры здачы ўзнікаюць праблемы — мыем па некалькі разоў. Тады радыяцыя спадае, прымаюць... Гэта, між іншым, парада аграпрома...**

У ХОЙНІКАХ, ля райвыканкома, куды мы прыязджаем,— амаль мітынг. Сабраліся жанчыны, мужчыны, моладзь. Акружылі дэпутатаў, кожны хоча расказаць пра сваё гора. Інвалід Вялікай Айчыннай вайны — мажны, з перабітай нагой дзядзька — расказвае, што ў яго ёсць унучка. Маці не дае ёй есці гародніны, ягад са свайго агарода.

— Але ж я ем, — кажа ён. — І калі падыдзе дзіця, то душа не вытрымлівае, даю, хоць і ведаю: злачынства ж раблю...

Пажылая кабета з дзіцем у калясцы расказвае, што ў яе чацвёра дзяцей і ні разу не выязджала яна з імі ў «чыстую зону» — пуцёвак ніхто не дае.

— Ні вітамінаў ніякіх яны каторы год не бачаць, ні ягад, гародніны. Што з іх будзе? Пайшла ўчора ў магазін чаго з яды купіць. Каб узяць кавалак пячонкі, пасварыцца давялося: загадчыца ж магазіна мясныя прадукты толькі па знаёмству прадае...

— Але ж пячонкі есці нельга, там жа страшная радыяцыя! — папярэджвае яе нейкі даволі інтэлігентны чалавек.

— А што есці? — пытае ў чалавека жанчына. — Нідзе нічога няма.

Мужчына ў насунутай на вочы кепцы расказвае, як ездзіў ён амаль па ўсёй Беларусі шукаць месца, куды б перасяліцца з Хойнік.

— Не трэба такія, як я, нікому, — кажа ён. — Стары, ды і прафесіі няма. Так што тут, у Хойніках, захлынацца радыяцыяй давядзецца.

Пенсіянеры просяць, каб паклапаціліся пра іх — жывуць яны ў большасці ў кватэрах, дзе няма ні цяпла, ні вады. Ды і за тыя грошы, што ім даюць, — не пракормішся. Сёй-той патрабуе адсялення сёння ж, не хоча чакаць ні дня. Жанчыны не ведаюць, што рабіць з дзецьмі. Вывозяць іх толькі на дваццаць чатыры дні ў «чыстыя» раёны, а астатні час трэба жыць дома. А тут яшчэ скарацілі час навучання амаль на два месяцы...

— Што, няўжо не ведаюць у міністэрстве нашага становішча? Некаторыя ўсе свае крыўды, просьбы і пажаданні напісалі на паперы падаюць нам — дапамажыце, ратуйце!

Плач, роспач...

**Калі чатыры гады таму назад мы з І. Шамякіным і М. Мятліцкім прыязджалі ў Хойніцкі раён і гутарылі з першым сакратаром райкома партыі Д. Дземічавым, ён гаварыў нам:**

**— У нашым раёне ёсць ля вёскі Баршчоўка горка, адтуль Чарнобыльская АЭС як на далоні відаць. Дык вось, калі здарылася бяда, я паехаў на тую горку, узяўшы, вядома, з сабою дазіметр. Змералі радыяцыю — больш паўтары тысячы мікрарэнтген было...**

**І яшчэ сказаў нам тады Д. Дземічаў:**

**— Спецыялісты, з якімі я гаварыў — а іх у нашым раёне перабывала шмат,—гавораць: радыяцыйная пляма, як чарнільная, расплываецца і расплываецца. Сёння яна дайшла да Бабчына, заўтра дойдзе да Стралічава, потым да Хойнік і пойдзе далей. Ніхто, нішто яе не стрымае. А тут яшчэ глебы такія, што радыяцыі раздолле, тое, што ёй трэба...**

**Гэтую гутарку з Д. Дземічавым я неаднойчы ўспамінаў. Успомніў і цяпер, калі селі ў «рафік», каб ехаць у «зону». І ўспомніў невыпадкова — сёння на адно з першых месцаў па небяспецы ў раёне выйшаў Стралічаў, яго трэба ратаваць. А там жа пабудавалі цэлыя пасёлкі, правялі водаправод, заасфальтавалі дарогі. Думалася, тут можна будзе жыць людзям. Ажно, выяўляецца, нельга. Адзін з лепшых у раёне, ды, мабыць, і ў вобласці саўгас трэба перасяляць. А там жа выдатныя фермы, спіртзавод... Ды і палі такія, што збожжавых па 70 цэнтнераў з гектара збіралі... Цяпер саўгас «Стралічава» рыхтуецца да перасялення ў Нясвіжскі раён — там мяркуецца пабудаваць новы пасёлак...**

**Стралічаў ад Хойнік зусім блізка, — рукой падаць. І па дарозе туды мы спыняемся ў садзе, глядзім тыя катэджы, што тут будуюць. Радыяцыя ў садзе больш за 100 мікрарэнтген. Хіба ж гэтага не бачылі тыя, хто планаваў тут будаўніцтва? Выкідваюцца народныя грошы абы-куды. У Хойніках нам неаднойчы напаміналі — мільёны рублёў выкінуты на вецер. Што пайшло на даплаты розныя, што на дэзактывацыю, якая нічога не дала, што на будаўніцтва новых пасёлкаў... Гэтых грошай хапіла б, каб не толькі перасяліць людзей ў чыстыя зоны, але і пабудаваць ім там жытло. А гэткае ж робіцца не толькі ў Хойніцкім раёне, а і ў іншых раёнах Беларусі, на Украіне, у Расіі. Так што канцэпцыя Ільіна вылеціць дзяржаве ў добрую капеечку! І ніхто ж за гэта не адкажа! Як не адказалі і тыя вучоныя, што праектавалі, будавалі атамную электрастанцыю ў Чарнобылі. Украдзі ў дзяржавы сотню рублёў — судзяць. А тут мільёны, мільярды трацяцца — і няма вінаватых...**

**У Стралічаве не спыняемся, едзем далей. Бачым толькі тыя акуратныя цагляныя домікі, што там пабудаваны. У некаторых з іх жывуць людзі, у некаторыя не паспелі яшчэ пасяліцца. І не паселяцца ўжо ніколі...**

**За Стралічавым — Губарэвічы, далей — Бабчын... Бабчын ужо ў «зоне», за калючым дротам. З цікавасцю гляджу на тыя двары, дамы, якія ведаю з дзяцінства, — тут жа нарадзілася і жыла мая маці. Апошні раз я іх бачыў чатыры гады назад. Тады тут яшчэ жылі людзі. Сёння ў Бабчыне нікога няма — мёртвая вёска: пустыя вуліцы, пустыя двары, пустыя хаты. Толькі трава, бур'ян параслі ўсюды ў рост чалавека. У хатах выбіты вокны, паадчыняны, пазрываны з завесаў дзверы... Агароды, палі — таксама не сеяныя — утравелі, не пазнаць, дзе поле, дзе луг...**

**Насустрач нам едзе машына, гружаная травой.**

**— А гэта што? — пытаем мы ў сакратара райкома партыі А. Акушкі, які едзе таксама разам з намі ў «зону».**

**— Сёй-той і сюды забіраецца, каб накасіць травы... А сёй-той і сее тут... — кажа ён.**

**Якая бяспечнасць! І гэта ж робіцца не адзін год!**

**Мінаем магільнік радыеактыўных адходаў, што зроблены быў тут у восемдзесят шостым годзе, калі ратавалі Бабчын, праводзілі тут дэзактывацыю. Тады зрывалі з хат дахі, выкопвалі з карэннем дрэвы, разбіралі платы, бульдозерамі здымалі самы пладародны пласт зямлі і вывозілі ўсё гэта за вёску — на магільнік. Мылі сцены хат, дарогі... Адзін з удзельнікаў гэтай дэзактывацыі едзе з намі, расказвае, як усё гэта рабілася.**

**— І што гэта дало?**

**— Нічога. Дзве гадзіны быццам трывала паменшаная радыяцыя. А потым зноў выраўнялася, стала такой жа, як і была...**

**Пад Бабчынам — вялікі свінагадоўчы комплекс. На 25 тысяч галоў. І Бабчын ратавалі, каб не закрываць гэты свінагадоўчы комплекс. Зноў — не людзі на першым плане былі, а свінні.**

**Магільнік зарос травою, здаля — бы ўсеадно гара якая. За магільнікам — лес. Стары, — гонкія меднастволыя сосны, вясёлыя белыя бярозы, карыстыя, каржакаватыя дубы, ясені, кляны, грабняк, арэшнік. Гэта надта ж грыбны лес. Бывала, расло тут столькі баравікоў, што хоць касою касі. Я гэта ведаю і ад свае маці, і ад Міколы Мятліцкага, які нарадзіўся і жыў у Бабчыне.**

**— Цяпер ніхто не бярэ грыбоў? — пытаю я ў тых людзей, якія нас суправаджаюць.**

**— Чаму ж, — адказвае адзін з іх. — Бяруць. Сушаць. А потым пасылаюць у гарады і там прадаюць.**

**Зноў калючы дрот — гэта пачынаецца трыццацікаламетровая зона. Не пазнаць — едзем па полі ці па лузе — так за чатыры гады ўсё тут пазарастала. Нават месцамі асфальт. Раптам дарогу нам пераходзіць каза з маленькім казлянём. Глядзіць на машыну. дзівіцца: а гэта яшчэ што такое? На ўсякі выпадак сыходзіць з дарогі. прапускае нас. Праз нейкі час бачым яшчэ адну казу. потым зайца. Дзікая свіння з прыплодам — пяцёра паласатых парасятак — нават з дарогі не сыходзіць, папасваецца на абочыне...**

**Там, на абочыне, і асінку чырвоную я ўбачыў. Асінка як асінка, а лісце не зялёнае, як гэта звычайна бывае, а нібыта крывёю паналівалася...**

**Потым такія самыя чырвоныя асінкі я і яшчэ бачыў. Чым далей ехалі, тым іх было больш і больш...**

**Сакратар райкома партыі А. Акушка падзяліўся з намі і яшчэ адным клопатам. які бударажыць жыхароў раёна — тут, пад Хойнікамі. запланавалі пабудаваць вялізны магільнік радыенуклідных адходаў.**

**— Справа гэта вельмі нядобрая, — сказаў задуменна А. Акушка.**

**— Глебы для такога магільніка тут не падыходзяць, няма гарантыі, што радыеактыўныя адходы не трапяць у грунтовыя воды... І тады... Тысячы ж людзей пацерпяць... Але ні вучоных. ні нас ніхто не слухае. Рашэнне аб будаўніцтве такога магільніка прынята ў Маскве, яго падпісалі намеснікі Старшыні Савета Міністраў СССР Нікіцін і Дагужыеў...**

**Вось і ўвесь наш суверэнітэт, самастойнасць Саветаў і рэспублік!..**

ВЁСКА ДРОНЬКІ. Калісьці, калі працаваў у раённай газеце, я тут бываў, і неаднойчы. Вёска не так вялікая, як багатая. Цяпер яна пустая, мёртвая, ніхто ў ёй не жыве. Выселілі яе ў ноч з чацвёртага на пятае мая 1986 г. Людзей забралі ў тым, у чым хто выйшаў з хаты. Усё чысценька тут пазаставалася, нічога нікому не дазвалялі браць з сабою. Адзенне, у якім людзі павыходзілі з хат, потым нават папалілі. А што тут цяпер? Спыніліся ля адной з камяніц. Выбіты вокны, сарваны з завесаў дзверы. Ні тэлевізара, ні канапы, ні крэслаў, ні сталоў, ні ложкаў, ні табурэтак — голыя сцены. Нават плітка з грубкі паздзірана... Дзе ўсё гэта цяпер?.. Валяецца на падлозе толькі хіба некалькі кніжак. Падручнік «Беларуская мова» для вучняў 5—6 класаў. «Выразнае чытанне». Часопіс «Народная асвета»... Ніл Гілевіч знаходзіць запісную кніжку — няйнакш, тут жыла настаўніца, бо ў кніжцы яе запісы, нават вершы. Забраць бы гэтую кніжку з сабой, аддаць гаспадару ці гаспадыні... Падстаўляем дазіметр — ён набівае лічбу 236...

З хаты выходзім яшчэ больш сумныя. Глядзім на могілкі — яны ў бярэзніку паблізу вёскі, — там на крыжах дзе-нідзе матляюцца свежыя ручнікі.

— Гэта на Радаўніцу прыязджалі былыя жыхары, дык пачаплялі, — тлумачаць нам, — Што ўжо слёз было, галашэння... І ад таго, што толькі раз на год сюды на могілкі трапіць можна, і што з жыллём рабаўнікі так не па-людску абышліся...

— Што, хіба ніхто не ахоўвае гэтыя пакінутыя вёскі? — пытаем мы.

— Чаму ж, ахоўваюць. Тут непадалёку міліцэйскі пост. Можа, пад'едзем?

Але ехаць на пост не давялося — сама міліцыя да нас прыехала. Чатыры здаровыя хлопцы-малойцы, як высветлілася. з Віцебска.

— І што вы тут ахоўваеце?

— Самі не ведаем. Бо тут жа нічога ўжо няма — усё парасцягвалі, што было.

— Хто? — пытаем мы.

— Гэта яшчэ да нашага сюды прыезду...

— А вы хоць каго тут злавілі?

— Не, — круцяць галовамі міліцыянеры. — Раз хіба верталёт прылятаў, казу дзікую ўпалявалі. Але пакуль мы пад'ехалі, яе ўжо асвежавалі, у верталёт загрузілі... І паляцелі... Ды яшчэ рыбака аднаго бачылі, рыбу сеткаю з сажалкі цягаў...

— А яна тут ёсць?

— Вельмі многа ў азярынах, рукамі можна лавіць. Мы іншы раз проста каменнямі яе забіваем.

— Навошта?

— Есці, — смяюцца хлопцы. Расстаёмся з міліцыяй, едзем далей...

**ТЫМ ЧАСАМ краявіды мяняюцца. На змену лесу, полю, лугу прыходзяць пясчаныя выспы, лазнякі, ніцы вербалоз. Адчуваецца блізкасць ракі, вады. А вось і яшчэ адна агароджа — «зона адчужэння». У ёй і вёска Баршчоўка — яна злева, відаць з дарогі каміны печаў і стрэхі хат. Вароты ў «зону» адчынены — калі ласка, заязджайце. Але мы не едзем туды, збочваем на затравелую брукаванку, якая ідзе паўз самую агароджу, едзем па ёй. Метраў праз колькі спыняемся — далей дарогі няма — рака. рака Прыпяць. Шырокая, паўнаводная. Калісьці, да вайны, тут быў паром. Але ў вайну яго знішчылі партызаны. Больш паромная пераправа тут не аднаўлялася.**

**Ля ракі стаіць цагляны дом з нейкімі ржавымі бочкамі. Але мы да яго не апускаемся. Увага наша скіравана на атамную электрастанцыю — да яе кіламетраў шэсць-сем, і два каміны, дах «саркафага» добра відаць адсюль, з пагорка. Ды і дзень спрыяе гэтаму — ён ясны, сонечны, сапраўды летні, спякотны. І ўсё ж, каб яшчэ лепш разгледзець станцыю, узбіраемся па драўлянай лесвіцы на вышку, што хтосьці ці не знарок збудаваў тут. І застываем у маўклівасці — адсюль, з вышкі, і праўда, не толькі сама станцыя як на далоні, але і нейкія іншыя пабудовы, карпусы.**

**Калісьці, будучы на экскурсіі на рэактары АН БССР у Соснах пад Мінскам, я любаваўся зеленаватым святлом, якое выпраменьвалася навокал радыеактыўных стрыжняў, што стаялі ў вадзе — і мяне вабіла тое святло сваёй таямнічасцю, загадкавасцю, незвычайнасцю — я ад яго не мог адарваць вачэй: так было цікава...**

**Цяпер, калі я паглядзеў на атамную станцыю з вышкі, на мяне нібы смерцю дыхнула, зрабілася не па сабе...**

**Памералі радыяцыю — яна атрымалася тут на лічбе 560. Дзіўна, але калі паклалі дазіметр на зямлю, ён паказваў то меншую, то яшчэ большую лічбу — усё залежала, куды яго клалі — на чысты пясок ці на зарослую травою, мохам, кустамі зямлю. Самая большая радыяцыя ў моху, у зарасніках, меншая — на чыстым месцы. Падпалкоўнік Кернажыцкі Уладзімір Цімафеевіч, што быў з намі (вельмі, дарэчы, цікавы чалавек: сам родам з Баршчоўкі, ён, калі здарылася бяда, папрасіўся сюды, у «зону», каб памагчы землякам; цяпер працуе ў абласным штабе грамадзянскай абароны), патлумачыў нам: 560 — гэта па цэзію, а тут жа выпалі і стронцый, і плутоній, і барый, і іншыя радыеактыўныя элементы. І ён дастаў нейкія новыя прыборы, расклаў іх. «Калі падсумаваць усё разам, — сказаў ён нам,— то радыяцыя тут вельмі высокая».**

**А па Прыпяці, на якую мы час ад часу кідаем свае позіркі, плаваюць, як ні ў чым не бывала, качкі — з вывадкамі, як і належыць ім такою парою. Пачуўся аднекуль сігнал цеплахода — ён цягнуў па рацэ баржу. Рака ж не перагароджана і там «зоны адчужэння» няма. Ценькала, падавала свой голас з кустоў нейкая птушка. Невясёлы, сумны...**

**Доўга стаяць тут небяспечна. Тым больш, што радыяцыя адчуваецца ўсім арганізмам. Робіцца неяк няўтульна, трывожна. Баліць галава. Ды і ўсё цела бунтуе — ахопліваюць дрыжыкі, адчуванне такое, быццам з цёплай вады на холад вылез. Пра горла і ўспамінаць не варта — пяршыць. аж дзярэ...**

**Сядаем у «рафік», едзем назад. Але не ў Хойнікі, а ў Тульгавічы — вёску, якую трэба было выселіць даўно і якую яшчэ і сёння не выселілі. Там не сеялі поля, забралі ўсю жывёлу, і людзі каторы месяц марнуюцца без працы. Ды і жыць ім няма за што...**

**Збочваем на звычайную лясную дарогу, дзе няма ўжо асфальту, едзем па ёй. Трымаем у руках дазіметр — радыяцыя то падае, то зноў падымаецца, імкліва расце—ідзе як бы хвалямі. Зноў любуемся палескімі барамі, дубнякамі, алешнікамі, бярэзнікамі. Якая ўсё ж тут прыгажосць! І яна пакінута людзьмі, пакінута на дзесяцігоддзі, а, можа, і стагоддзі! Хто прыйдзе сюды зноў, хто паселіцца? На жаль, гэта будзе ўжо не пры нас, не на нашай памяці...**

ВЁСКА КАЖУШКІ. У ёй калісьці я таксама бываў. Тут брыгадзір калгаса частаваў мяне вельмі моцнай самагонкай, а яго жонка — смачнымі, упрэлымі ў печы дранікамі. У канцы 1982 года тут неяк уночы ваўкі напалі на калгасную кашару і задушылі каля трохсот авечак.

— Гэта яны так адзначылі прысуджэнне Дзяржаўнай прэміі земляку за кнігу «Ваўчыца з Чортавай Ямы», — жартаваў тады з мяне старшыня Хойніцкага райвыканкома Уладзімір Сцяпанавіч Варажбітаў, папярэднік Абухава, калі прыехаў да мяне ў Мінск павіншаваць з высокай узнагародай.

Цяпер у Кажушках ніхто не жыве, пуста, як і ў Дроньках, як і ў іншых вёсках, што апынуліся ў зонах — зоне адчужэння, трыццацікіламетровай зоне, зоне адсялення. Сцежкі ў двары пазарасталі травою, у хатах выбіты вокны, парасчыняны дзверы. Ды, мусіць, і хаты абрабаваны. Хто гэта зрабіў?

Насустрач нам едзе падвода: ідзе мернаю, самавітаю ступою конь, побач з ім з рыдлёўкамі ў руках, — двое мужчын. Успрымаецца гэта ў бязлюднай, мёртвай вёсцы як дзіва, цуд. Хто такія? Спыняемся, пытаем. Аказваецца, леснікі. Яны ахоўваюць і вёску, і лес — баяцца пажару. Калі не дай бог ускінецца ён, радыяцыя з дымам пойдзе на палі і вёскі, дзе яшчэ і сёння жывуць людзі, і наробіць бог ведае колькі бяды.

Зноў едзем, і зноў праз нейкі час спыняемся — бачым людзей, мужчын, што нешта робяць у пакінутых дварах — хто яны такія? Выяўляецца: гэта таксама леснікі — шукаюць слупоў, каб можна было іх укапаць у лесе, зрабіць на іх неабходныя для службы адзнакі...

За Кажушкамі сустракаем дзве «Волгі». У адной з іх едзе знаёмы нам старшыня райвыканкома А. Абухаў, у другой — не менш знаёмы першы намеснік Старшыні Вярхоўнага Савета БССР С. Шушкевіч. Спыняемся, вітаемся. Станіслаў Станіслававіч расказвае, што ён толькі што пабываў у Тульгавічах, становішча там сапраўды цяжкае, проста невыноснае, і ён просіць, каб мы не ехалі туды. «Не трэба сыпаць людзям соль на раны, — кажа ён. — Гэтыя нашыя прыезды нічога не даюць, а толькі бударажаць людзей». Спытаўшы, дзе мы былі і колькі намералі на беразе Прыпяці радыяцыі, ён адпускае сваю машыну назад у Хойнікі, перасаджваецца ў машыну да Абухава. Што ж, ён сам фізік-атамнік і ведае, што і як трэба рабіць...

Зноў едзем, цяпер не ў Тульгавічы, а ў Навасёлкі.

**НАВАСЁЛКІ — адна з самых вялікіх вёсак у Хойніцкім раёне. Па колькасці жыхароў і двароў яна ўступае хіба маййу Вялікаму Бору ды Дворышчам. Навасёлкі таксама трэба высяляць. Аднак пакуль што тут поўным ходам ідуць сельскагаспадарчыя работы, працуе вялікая малочнатаварная ферма. Хоць суседняя з Навасёлкамі вёска — Новапакроўск — не толькі выселена, але і пахавана. Есць, з'явіўся новы такі тэрмін — пахаваная вёска. Што гэта значыць? Выкопваюць бульдозерамі траншэю, сцягваюць туды бярвенні ад хат, хлявоў — і ўсё засыпаюць зямлёй. Цяпер там вёскі няма, голае поле. Пры немцах у вайну вёскі палілі, цяпер — хаваюць...**

**Дарога ў Навасёлкі ідзе полем. Яно засеяна — жытам, бульбаю, ячменем. Гэта з левага боку. А з правага — лес, ён абгароджаны калючым дротам, там — «зона». Канешне, умоўная гэта мяжа, бо радыяцыя такая самая і ля агароджы і за агароджай. Агароджу можна было ставіць і на некалькі кіламетраў далей, ці на некалькі кіламетраў бліжэй. Вырашылі паставіць ля дарогі — каб, мусіць, па ёй можна было ездзіць.**

**У Навасёлках спыняемся ля магазіна, бо дзе ж яшчэ можна ўбачыць у нас людзей, як не каля магазіна? Мы не памыліліся — ля магазіна, ды і ў магазіне была чарга. Якраз прывезлі каўбасу, і кожны хацеў узяць хоць кавалак. Пачалася размова. Яна, як усюды цяпер на Палессі, нервовая, з плачам, надрывам. Людзей ахапіла роспач. Колькі вось так можна жыць — труціцца самім і труціць іншых? У вёсцы два магазіны, але адзін не працуе— не могуць знайсці прадаўца. Ніхто ў вёску не едзе — ні дзеці, ні ўнукі. А тыя, хто тут жыве, не ведаюць, дзе ім падзецца. Добра было б, каб вёску выселілі ўсю разам. Але як гэта зрабіць?**

**Праз вуліцу на лавачцы сядзяць дзве дзяўчынкі-школьніцы. Побач капаецца ў зямлі белагаловы хлопчык — насыпае жменькаю на цацачную машыну пясок, перавозіць з месца на месца, выгружае.**

**Мераем радыяцыю—112 мікрарэнтген!**

**Ад магазіна едзем на ферму, паглядзець. у якім стане там трымаюцца каровы, ды і кормяць іх чым. Яна ў канцы вёскі, таксама вялікая, сучасная. Мераем дазіметрам прыгатаваную для корму траву—радыяцыя ў ёй больш 50 мікрарэнтген. Заходзім у кароўнік—таксама радыяцыя прыкладна тая самая. А ўзбоч кароўніка, пад вадасцёкам... Мы аж не паверылі спярша вачам сваім—дазіметр паказвае 1.460.**

**— Гэта яшчэ нічога, — кажуць даяркі. — Вы едзьце памерайце ля магільніка. Ён жа ў нас на полі, дзе растуць і бульба і жыта. З усяго раёна, ды, можа. і вобласці звозяць туды ўсякую нечысць... І кідаюць абыя-як, не закопваюць нават...**

ВЯДОМА, пры выездзе з «зоны», ды і з Хойнік ніхто не памыў нашу машыну. Памыў яе дождж у Калінкавічах, калі мы там стаялі, пілі хлебны квас. Асталася ад нашай машыны радыеактыўная пляма. Па ёй будуць праязджаць іншыя машыны, хадзіць людзі, дзеці... Колькі такіх плям і дзе пакінута ўжо? Ды і той «рафік», які пабываў разам з намі ў «зоне», будзе ж і далей бегаць па дарогах, вазіць людзей. І ніхто ведаць не будзе, сядаючы ў машыну, дзе яна была, якая ў ёй радыяцыя...

Страшна, калі пачынаеш думаць, колькі нароблена бяды, ды і робіцца ў нас па недасведчанасці, абыякавасці і проста неарганізаванасці, неахайнасці...

**...КАНЧАЕ сваю работу сесія Вярхоўнага Савета БССР. Выступілі тыя, хто адказвае за стан спраў у забруджаных радыяцыяй раёнах, выступілі і тыя, хто там пабываў, жыве, выступілі і тыя, хто не быў там і, відаць, ніколі не будзе. Ад той групы, што ездзіла ў Хойніцкі раён, выступілі Н. Гілевіч і М. Калбаска.**

**Вярхоўны Савет БССР прыняў адпаведныя пастановы, нешта ў становішчы людзей, што трапілі ў бяду, зменіцца.**

**Але не забудуцца тыя размовы, галасы і вочы людзей, што не адзін я чуў, бачыў—просьбы паратунку, помачы. Такое не забудзецца, як не забудзецца і тая бяда, што іх выклікала, нарадзіла, — Чарнобыль.**

**Хто верне ім, гэтым без віны вінаватым людзям, душэўную раўнавагу, спакой? Як будуць жыць яны, астаўшыся без роднага кутка, без сваёй бацькаўшчыны? Што чакае іх саміх і іншых дзяцей ды і кожнага з нас і заўтра, і паслязаўтра, у блізкай і далёкай будучыні?..**

**Зноў здаўлівае горла тугі камяк, зноў хочацца плакаць...**

P. S. Днямі сустрэў я свайго знаёмага з Кажушкоў—ён жыве цяпер у Мінску, а тады, улетку 1986 года, жыў там, на Палессі, у сваёй вёсцы.

— Ці ездзіце вы хоць зрэдку туды, дадому? — спытаў я, расказаўшы пра сваю паездку ў «зону».

— Не. Пасля таго, што перажыў я там у красавіку і маі, я туды больш не езджу, ні разу не быў.

— Чаму?

— Баюся. Страшна ўбачыць тое, што зусім нядаўна было маёй радзімай, чым я жыў, дзеля чаго не шкадаваў нічога...

*Ліпень, 1990 г.*

## *Упершыню ў «ЛіМе»*

### Генадзь АЎЛАСЕНКА

●

Бацькамі страчаныя словы
Наноўку дзецям аддаваць.
Тых,
хто адмовіўся ад мовы,
Не ганьбаваць,
а шкадаваць.

Тых,
хто згубіў першааснову.
Хто абрывае карані.
*Ты, божа, іх абарані*
Ад іх саміх.
Вярні ім мову.

●

Кожны дзень пражыты
Гэта ў чымсьці
сябе адкрыццё.
Гэта
белыя-белыя
Крылы буслоў
над лясамі.
Гэта бераг ракі
Пад цудоўнаю назвай —
ЖЫЦЦЁ.
А далей — забыццё.
Што далей,
мы не ведаем самі.

### *Шляхі чалавечыя*

З Масквы, з Крамля, на ўсе
старОны
Ляглі шляхі святлом услаиы.
Па іх ідуць, ідуць мільёны
Людзей магутных, гордых,
вольных,
Ідуць мільёны раскаваных.

Я. КУПАЛА. «Шляхі». 1939 г.

I

Навошта ён пісаў такое,
Калі, як у жахлівым сне,
Не слёзы нават, кроў ракою
Цякла па роднай старане?
Не раскаваных, закаваных
Ішлі мільёны па-над ёй!
Ім не святлом шляхі услаиы,
А чалавечаю крывёй!
Ішлі,
ішлі,
ішлі мільёны
На катаванне,
глум і злом.
Усе чалавечыя законы
Шматком паперы пад сталом.
Адны магілы за шляхамі...
Мой любы край крыві і слёз,
Якімі цяжкімі грахамі
Ты заслужыў свой горкі лёс?!
Ты столькі гінуў,
ды не згінуў...
Эх, сілы, сілы не стае...
Што ж твой пясняр цябе
пакінуў?
Што ж не аб тым другі пяе?!

II

І я не веру,
што не ведаў...
І ведаю,
што ён не верыў
У тое, што пісаў тады.
Чаму ж пісаў?
З якой прычыны?
Шалёны клёкат крумкачыны.
Вайна за межамі Айчыны.
І жыць ледзь-ледзь за тры
гады.

●

Закавалі.
Затым катавалі.
Катавалі.
Затым пахавалі.
Пахавалі.
Ці проста схавалі.
Нават памяці не захавалі!
Ды й нашто яна,
памяць, кáтам?!
Ім у бяспамяцтве
лепей жыць.
Пад балючым пяском
Курапатаў
Наша памяць ляжыць.

г. Чэрвень.

Саюз пісьменнікаў БССР выказвае глыбокае спачуванне пісьменніку Віктару Гардзею з выпадку трагічнай смерці сына.

*Старонкі ўспамінаў*

# Незабыўная сустрэча

У ЛЕТКУ 1971 года да мяне на падворак зайшоў Янка Брыль і з ім незнаёмы мужчына. Янку я добра ведаў з нашых партызанскіх сцежак, таму мая ўвага была звернута на незнаёмца. З першага погляду кінулася ў вочы, што з вуснаў госця не знікала ўсмешка. Густыя, незачэсаныя валасы нізка апускаліся на шырокі лоб. Каля губ трымаліся малапрыкметныя маршчыны.

**— Знаёмся, — кажа мне Янка.**

**— Караткевіч, — назваўся незнаёмы.**

**Я назваў сябе, ды кажу:**

**— Вельмі прыемна, бо ведаю вас толькі па творах.**

**Паабедалі і пайшлі на бераг Нёмана. Праходзячы каля царквы, Уладзімір Сямёнавіч выказаў жаданне паглядзець яе ўбранства. Царква не замыкалася, бо не працавала. Мы адчынілі дзверы і зайшлі ў сярэдзіну. Апрача некалькіх ікон, сярод якіх была і «Тайная вячэра», двух падсвечнікаў і некалькіх харонгваў, больш нічога не было. Ён зблізку агледзеў іконы і выказаў сваё меркаванне:**

**— Арыгіналаў няма, усе копіі. Але нядрэнна выкананы.**

**— Як расказвалі старыя людзі, перабудаваў царкву мясцовы памешчык Тумілоўскі. Па ўспамінах — неблагі чалавек. Калі ў каго прападала карова, то не было выпадку, каб не дапамог купіць другую, — паведаміў я.**

**— Гісторыя ведае нямала прыкладаў высокай культуры і чалавечнасці тых, каго мы называем эксплуататарамі, — сказаў Караткевіч.**

**Як выйшлі на вуліцу, я спытаўся:**

**— Што трэба зрабіць, каб дзяржава ўзяла царкву пад ахову?**

**— Што рабіць — вядома. Толькі гэтую царкву дзяржава не возьме пад ахову.**

**— Чаму?**

**— Хоць галоўны купал і па баках малыя пабудаваны па канонах праваслаўнай, сама яна стаіць уваходам на ўсход, як уніяцкая. Відаць, калісьці твае продкі маліліся уніяцкаму богу, — пачуў жартаўлівае ў адказ.**

Тады мяне здзівіла: малады пісьменнік, а так добра ведае рэлігійныя догмы. Над гэтым я ніколі не задумваўся, хоць прыкметы ўніяцтва захавалі помнікі на могілках.

Потым мы пайшлі паўз Нёман, наведалі месца, дзе Сула аддае свае халодныя і чыстыя воды бацьку-Нёману.

— Тут нельга не затрымацца, як-ніяк, а месца незвычайнае: Сула адна з хуткаплынных рэк Беларусі, апетая вялікім Коласам, яднаецца з Нёманам, — неяк удумліва прамовіў Уладзімір Сямёнавіч і сеў на бераг Нёмана, якраз там, дзе Сула праглядаецца далекавата, звесіў ногі над вадою. — Маё вока цешаць багацці кветак у траве на гэтым лузе. Вырві жменю і завары чай — лепшага не прыдумаеш...

Адпачыўшы, мы пайшлі ўздоўж берага, і на нашым шляху паўстала нямнішча, як у нас называюць старыцу. Яна маўчала ў дрымоце, а над ёю некалькі векавых дубоў. Глыбокія месцы старыцы яшчэ не паспелі зарасці, таму на вадзе густа ляжала шырокае лісце, а паміж іх падставілі сонцу белыя пялёсткі лілей і жоўтых збаночкаў. Караткевіч памаўчаў, потым павярнуўся да нас:

— Вось казачнае месца. Пасядзець бы тут ноччу пад поўным месяцам з блакнотам. Пад раніцу казка будзе гатова. Ох, якое ж багатае тут ваша Наднямонне!

**Урэшце выйшлі на высокі бераг у Крынічным. Прыселі пад вялізнаю разгалістаю ліпаю з буслянкаю.**

**— Як усё разумна і рацыянальна ў нашай прыродзе. Яна ціхая, сціплая, ветлівая і загадкава сумная. — задуменна азваўся Уладзімір Сямёнавіч.**

**— Мы часта не бачым цудоўнае, што навокал нас, як, дарэчы, не заўважаем і сваё шчасце ў штодзённым жыцці, — прамовіў Іван Антонавіч.**

**— Шкада, шмат часу праходзіць дарэмна, не на творчасць, — пазіраючы на Янку, сказаў Караткевіч.**

**— Не табе аб гэтым шкадаваць, — адказаў яму Янка.**

**— І мне таксама, — не пагадзіўся Караткевіч, — столькі задум, гатовых сюжэтаў, асабліва па гістарычнай тэматыцы. Як сказаў адзін філосаф: «Нічога не адкладвай на пасля, бо і пасля лягчэй не будзе»...**

**З Беражна на аўтобусе паехалі ў Карэлічы. Адведалі Паўла Арсенавіча Жалезняковіча, нашага з Янкам баявога сябра, героя Брылёвага нарыса «Сэрца камуніста». Блакнот не захаваў запісу размовы з Паўлам Арсенавічам. Толькі сумеснае фота нагадвае пра тую сустрэчу.**

Відаць, Караткевіч сваім чулым сэрцам разумеў, у каго ён гасцяваў, таму быў стрыманы, больш слухаў, чым гаварыў, што было нехарактэрна для яго.

Выйшлі на вуліцу і якраз у гэты час каля хаты Паўла Арсенавіча затрымалася машына: на сваім бывалым «Масквічы» прыехаў адведаць Жалезняковіча Уладзімір Калеснік са сваёю жонкаю Зосяю Міхайлаўнаю.

Уладзімір Андрэевіч угаварыў нас паехаць у Крынкі, вёску над Сервеччу, дзе жыла яго мачаха. Мы згадзіліся і яшчэ завідна заехалі на месца.

Пакуль гаспадыня і Зося клапаціліся пра вячэру, мы выйшлі на бераг Сервечы і спыніліся каля млына. Вадзяное кола ўжо не круцілася, таму панавала надзвычайная цішыня, якая бывае толькі каля млына, што спыніўся назаўсёды.

Тут над Сервеччу Брыль, Караткевіч і Калеснік усчалі палеміку пра літаратурны працэс і выдавецкую справу ў Беларусі. Запамяталася выказванне Янкі, што самы няшчасны чалавек у нас гэта беларускі пісьменнік. Наша літаратура, як паэзія, так і проза, упэўнена выйшла на міжнародны ўзровень і займае пачэснае месца паміж усіх літаратур, а ў нас парушаецца ленінская нацыянальная палітыка, ад чаго тыражы беларускай літаратуры нікчэмныя, а колькасць чытачоў з году ў год змяншаецца.

— Я ўпэўнены, што гэта часовая з'ява. Моладзь, асабліва таленавітая, схільная да творчасці, моцна трымаецца роднай мовы, — выказаў сваё меркаванне Уладзімір Андрэевіч.

— Лепшыя творы і на нашай мове на паліцах бібліятэк і кнігарань не залежваюцца. У гэтым надзея на лепшае, — упэўнена сказаў Уладзімір Сямёнавіч і дадаў: — Навошта заплюшчваць вочы. Нямала ў нас кніг, якія прачытаеш, а назаўтра — як быццам не чытаў, пра ўсё забыўся. Толькі шкада патрачанага часу.

**Назаўтра прачнуліся вельмі рана. Браўся світанак, чырванеў усход. Праз адчыненую фортку ў хату даляталі птушыныя галасы.**

**— Які сёння дзень? — лежачы ў ложку, спытаўся Брыль. Я маўчаў, не здагадваючыся, што адказаць.**

**— Сёння 22 чэрвеня, гадавіна, як фашысты напалі на нашу краіну, — сам адказаў на сваё пытанне Янка і пачаў успамінаць, як яны ў лагеры палонных успрынялі паведамленне пра пачатак вайны. Калі скончыў, спытаўся ў мяне:**

**— А ты памятаеш 22 чэрвеня 1941 года?**

**Як не памятаць! І я падрабязна расказаў пра першы дзень вайны ў Гродне, дзе я тады вучыўся, пра шлях свой на ўсход, пра камсамольскае падполле ў нашай вёсцы.**

Праз некалькі год прачытаў у кнізе «Зямля пад белымі крыламі» свае ўспаміны. Пададзены Уладзімірам Сямёнавічам, яны былі дакладныя і амаль без скарачэнняў. «Якую ж трэба мець памяць, каб без запісу так дакладна занатаваць пачутае!», — выказаў я сваё здзіўленне Івану Антонавічу.

— У яго была выключная памяць, — адказаў Брыль. — Тады я табе не гаварыў, але наўмысна спытаўся ў цябе пра пачатак вайны. Валодзя якраз рыхтаваў свой нарыс, папрасіў мяне наладзіць сустрэчу з чалавекам, які асабіста перажыў першы дзень вайны. Вось і завіталі мы да цябе.

Я часта ўспамінаю тую нашу адзіную сустрэчу з Караткевічам. Як самую вялікую каштоўнасць берагу зборнік вершаў «Мая Іліяда» з аўтографам паэта. Можа, соты раз чытаю акуратны, як бы абдуманы почырк: «Дарагому Яўгену Ігнатавічу Крамко на сціплую памяць аб нашым візіце на цудоўны, найпрыгажэйшы ў свеце ягоны Нёман. Ул. Караткевіч. 21 чэрвеня 1971 года.»

Яўген КРАМКО.

## ЛЯ КНІЖНАЙ ПАЛІЦЫ

### БЫЛА КАФЛЯ, БЫЛІ МАЙСТРЫ...

**Здаецца, беларускія вучоныя ўжо зрабілі адкрыцці ва ўсіх галінах гістарычных ведаў і ўсе гэтыя галіны дастаткова распрацаваныя. Але новыя даследаванні і новыя адкрыцці чакаюць яшчэ нас. Прыкладам такога новага даследавання з'яўляецца калектыўная праца, што выйшла нядаўна ў выдавецтве «Беларусь» пад назваю «Беларуская кафля». Аўтарамі тэксту гэтае кнігі і складальнікамі шматлікіх ілюстрацый з'яўляюцца В. Собаль, М. Ткачоў, А. Трусаў і У. Угрыновіч, якія ўпершыню абагульнілі беларускі кафельны матэрыял XIV—XX ст. Гэтая кніга ўяўляе сабой і навуковае даследаванне, і папулярную кнігу пра малавядомую або зусім невядомую для шырокага кола чытачоў галіну творчасці беларускіх майстроў XIV—пачатку XX ст., і альбом выдатна, па-мастацку зробленых ілюстрацый розных узростаў і стыляў кафлянага майстэрства. У альбоме змешчаны 210 каляровых ілюстрацый. А тое, што ён выдадзены на паперы, лепшага гатунку, робіць кнігу ўзорам для выданняў такога роду. Трэба адзначыць высокую навуковую кваліфікацыю аўтараў і добры густ рэдактараў на чале з загадчыкам рэдакцыі Г. Галубовічам. Тэксты ў кнізе прадстаўлены ажно на шасці мовах — беларускай, рускай, англійскай, французскай, нямецкай і іспанскай. Праўда, улічваючы, што кніга разлічана і на замежнага чытача, тыраж яе ўсе ж невялікі (4200 асобнікаў).**

**Аўтары падзяляюць увесь тэкст на сем раздзелаў, згодна з этапамі развіцця кафлярства на Беларусі. Усе стылі ўвасобіліся ў беларускім кафлярстве за некалькі стагоддзяў — готыка, рэнесанс, барока, ракако, класіцызм і мадэрн. У кнізе прадстаўлены ілюстрацыі найбольш простых кафлярскіх вырабаў і вельмі адмысловых, са складанымі мастацкімі ўзорамі кафлярства, якія ўжываліся ў магнацкіх палацах Беларусі або ў царскіх палацах Масквы і Падмаскоўнага краю, дзе працавалі найбольш кваліфікаваныя беларускія рамеснікі, вывезеныя па загаду цара Аляксея Міхайлавіча падчас вайны 1654—1667 гг. з Копысі, Шклова, Магілёва, Дуброўны, Мсціслава і іншых гарадоў Беларусі. Кожны з раздзелаў пачынаецца з невялікага гістарычнага экскурса, а ўсе подпісы да ілюстрацый абавязкова ўключаюць месца знаходкі і дату (або стагоддзе) яе вырабу.**

**Спіс ілюстрацый у канцы кнігі дае самыя неабходныя звесткі і пра прадметы, што паказаны ў ілюстрацыях, і пра аўтара знаходак (і дату) падчас археалагічных раскопак, а таксама прозвішча рэстаўратара (У. Угрыновіч). Згадана асобна таксама і выкарыстаная літаратура.**

**Вядома, гэта першае выданне такога тыпу, таму ўсё, што захавалася ў гэтай галіне народнага мастацтва, у кнігу не ўвайшло, аднак аўтары і складальнікі зрабілі ўсё магчымае, каб паказаць чытачу ўзоры гістарычных высокамастацкіх помнікаў, якія сведчаць аб адной са старонак гісторыі матэрыяльнай культуры на Беларусі. Урэшце, раім чытачу набыць гэтую кнігу і самому ацаніць майстэрства нашых продкаў.**

**А. ГРЫЦКЕВІЧ.**




**з 30 ліпеня па 5 жніўня**

**30 ліпеня. 15.30**

**ДЗЯРЖАЎНАСЦЬ БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ: ПРАБЛЕМЫ І РЭАЛЬНАСЦЬ**

**Гледачы пачуюць інтэрв'ю і вытрымкі з выступленняў удзельнікаў навукова-практычнай канферэнцыі Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны.**

**31 ліпеня. 17.25**

**ПАЎГАДЗІНЫ Ў БЕЛАРУСКАЙ ВЕСЦЫ**

**Фальклорная праграма з удзелам ансамбля народнай песні «Крэсіва» пазнаёміць гледачоў з беларускімі народнымі промысламі: вырабамі з саломкі, гліны, дрэва, ільну. Прагучаць песні разнастайныя па змесце, шчырыя па сваёй меладычнай і паэтычнай прыгажосці.**

**2 жніўня. 18.00**

**МЫ І НАША КІНАКАМЕРА**

**Новыя фільмы кінааматараў Магілёўскай вобласці**

**3 жніўня. 19.20**

**ТВОРЧЫ ВЕЧАР ПІСЬМЕННІКА М. АЎРАМЧЫКА**

**4 жніўня. 15.45**

**МЕТРАНОМ**

**«У згодзе і спрэчках з Мельпаменай». Перадача прысвечана творчай дзейнасці тэатральнага мастака Эрнста Гейдэбрэхта.**

**Перадачу вядзе музычны каментатар Г. Хаймінава.**

**4 жніўня. 17.20**

**ФАЛЬКЛОРНЫ ВЕЧАР З УДЗЕЛАМ КАЛЕКТЫВАЎ МАГІЛЁЎСКАЙ ВОБЛАСЦІ**

**5 жніўня. 13.00**

**«ГАЛОЎНАЕ — ТВОРЧАСЦЬ...»**

**Самадзейны тэатр-студыя «Золак». Рэжысёр Г. Прыма пазнаёміць з удзельнікамі, раскажа аб творчых планах калектыву. Гледачы ўбачаць урыўкі са спектакляў.**

**5 жніўня. 22.45**

**СТУДЫЯ «РЭЙ»**

**Па старонках Другога ўсесаюзнага фестывалю польскай песні «Віцебск-90»**



«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и совета Союза писателей БССР. Минск. На белорусском языке.

**Літаратура і Мастацтва**

Выходзіць раз на тыдзень, па пятніцах.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.
Індэкс 63856 П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
АТ 06337 М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.

ТЭЛЕФОНЫ: прыёмная рэдакцыі — 33-24-61; намеснік галоўнага рэдактара — 33-25-25; адказны сакратар — 33-19-85; аддзел публіцыстыкі: Міхась ЗАМСКІ, Віталь ТАРАС — 33-19-65; аддзел пісьмаў і грамадскай думкі: Людміла КРУШЫНСКАЯ, Марыя ГІЛЕВІЧ — 33-19-85; аддзел інфармацыі: Алесь МАРЦІНОВІЧ — 33-24-62; аддзел крытыкі і бібліяграфіі: Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ — 33-22-04; аддзел літаратуры: Юрась СВІРКА, Уладзімір ЯГОЎДЗІК — 33-22-04; аддзел музыкі: Святлана БЕРАСЦЕНЬ — 33-21-53; аддзел тэатра, кіно і тэлебачання: Жанна ЛАШКЕВІЧ — 33-21-53; аддзел выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў: Пётра ВАСІЛЕЎСКІ — 33-24-62; аддзел народнай творчасці і культасветработы: Вячаслаў ЛАПЦІК — 33-24-62; аддзел мастацкага афармлення: Уладзімір ТАБУШАЎ — 33-44-04; фотакарэспандэнт: Уладзімір КРУК — 33-24-62.